БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 4 (13536)

20 — 26 студзеня 1992 года

Цана 1 рубель (па падпісцы — 35 кап.)




## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

"НАДОЕЧЫ" 2

"ПАС" 3

"РАКУРС" — фотарэпартаж з Віцебшчыны 4

"ПАЦУЧОК ХВАСТОМ ВІЛЯЎ". ФЕЛЬЕТОН. 5

"ВЫТОКІ". Артыкул "БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ". 6

Паэзія і проза — у "КРЫНІЦАХ" 7-10

Эскіз да партрэта спевака, паэта і кампазітара Ігара Талькова "ЛЕБЕДЗЬ З ДУШОЮ ХУЛІГАНА". 11

"АДАМ І ЕВА" 12

"КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО" 13

Кінуць цыгарэту прапануе "АЗБУКА ЗДАРОЎЯ" 14

"ГАРЧЫЧНІК" 16

## ХТО АБАРОНІЦЬ КУПОН?

Зазірніце ў любую краму, падыдзіце да касы — і вам усё стане зразумела. Доўгачаканыя нашы купоны, якія заклíканы абараніць наш шматпакутны спажывецкі кошык, самі маюць патрэбу ў абароне. Паглядзіце: касір вырazae паперкі з лічбамі, кідае іх кудысьці ўбок, не зважаючы ні на картку спажыўца, ні на самога спажыўца. Ці варта пералічваць махінацыі, якія магчымыя з гэтымі паперкамі?

Мы вырашылі знайсці кампетэнтнага чалавека, які б развеяў наш песімізм у адносінах да ўрадавага новаўвядзення. Такім чалавекам стаў падпалкоўнік В.Ф.Емец, старшы оперупаўнаважаны па асоба важных справах Упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі.

— Валерый Фёдаравіч, ці зафіксаваны ў нашай рэспубліцы падробленыя купоны?

— Ведаеце, пакуль што не. Але справа ў тым, што зафіксаваць іх вельмі цяжка, а калі гэтыя купоны зроблены на высакаякаснай замежнай тэхніцы, адрозніць іх ад сапраўдных практычна немагчыма. Па сутнасці, купон уяўляе сабой звычайную паперку, на якой з аднаго боку надрукавана лічба. Ніякай абароны — ні вадзяных знакаў, ні іншых магчымых сродкаў купон не мае.

— А якія фабрыкі вырабляюць такія "сродкі абароны рынку"?

— Іх чатыры. Мінская фабрыка каляровага друку, Мінская картаграфічная фабрыка, друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку і мінская фабрыка "Чырвоная зорка". Праўда, адтуль купоны вынесці даволі цяжка, існуе строгі кантроль за кожным, хто ўдзельнічае ў тэхналагічным працэсе. А наогул аказалася нялёгка стварыць нейкую сістэму абароны купонаў, бо, па-першае, было вельмі мала часу, а па-другое, купоны разглядаліся як часовая мера.

Такім чынам, высвятляецца, што купоны асноўнай масе народа нічога не прынеслі. Нічога, акрамя даўжэйшых чэргаў, чарговай нерватропкі і яшчэ адной нагоды для сумнення ў кампетэнтнасці нашага ўрада. Мяркуйце самі: у простага беларуса няма грошай, каб зрабіць буйную пакупку. Махляр жа знойдзе для гэтага не толькі грошы, але, як высвятляецца, і купоны. Таму і спадзяванне ўрада на адсячэнне лішняй грашовай масы ёсць не што іншае як фікцыя. Прэм'ер Паўлаў сваёй рэформай дасягнуў таго ж самага... Як бачна, для песімізму ёсць усе падставы.

Алесь Палынскі.

## ALFA

### Не хлебам адзіным?!

Далібог, я перад ёй не вінаватая! Дык чаму так сорамна і балюча трываць пільны позірк гэтай старой, ссівелай жанчыны, чуць яе горкія словы:"Дажыліся, дзядуля! Пакаштавалі торціка... Што ж робіцца ў свеце! Сорак чатыры рублі — ці ж гэта жарты? А кілбаса — бач ты, сто трыццаць два — якраз маёй пенсіі на кілаграм і хопіць". Яны рэжуць па сэрцы, нясцерпным болем пякуць сумленне. Дажыліся...

Напярэдадні вадохрышча патэлефанавала знаёмая, ледзь не плачучы распавяла: бацьку (дарэчы, ветэрану вайны) у чарзе па малако зламалі дзве рабрыны. «Я яму: ну навошта ты лез? А ён адказвае: стаяў спакойна, ззаду наперлі і пачалася таўкатня. Божухна, хутчэй бы цэны на ўсё павысілі. Можа, тады будзе спакайней? Хоць знікнуць гэтыя абрыдлыя чэргі?»

Да якой мяжы мы дайшлі, калі самі просім, каб хутчэй узраслі цэны?! Як жа трэба прынізіць чалавека чаргой, каб пачуць такую мальбу...

Цэны ўзраслі, але чэргі пакуль не спяшаюцца знікаць. Набіраем у запас, чакаючы яшчэ горшых часоў? Нам калісьці з гонарам унушалі, што толькі ў нашай краіне чалавек можа быць упэўнены ў заўтрашнім дні — цяпер жа хісткасць і непрадказальнасць будучыні прымушае саміх клапаціцца аб гэтым дні. Самым вар'яцкім спосабам — забіваючы кватэры прадуктамі, рэчамі, ператварыўшы іх у сховішчы. Ці дадумалася б да такога цывілізацыя?!

"Міліцыянер ва Уладзівастоку расстраляў з пісталета прадаўшчыц, якія не атаварылі талоны на мяса". Доўгія чэргі на марозе на Далёкім Усходзе. Вынікі — шматлікія абмаражэнні. "А з аднаго магазіна пенсіянера даставілі адразу ў морг". Газеты сёння літаральна стракацяць падобнымі фактамі, і, чытаючы іх, становіцца крыўдна за свае падмануты надзеі, за зруйнаваную веру ў "светлую будучыню".

Ніводная краіна ў свеце не можа так прынізіць чалавечую годнасць, як гэта робіць наша. Ну калі мы апошні раз радаваліся жыццю? Зірніце навокал: бязрадасныя твары, згорбленыя постаці — і ніводнай усмешкі.

Дачакаліся! У "горадзе хлебным" Ташкенце з'явіліся першыя ахвяры палітыкі лібералізацыі цэн — сярод студэнтаў, якія не пажадалі мірыцца з жабрацкім існаваннем і абвясцілі забастоўку...

Пралілася кроў, якую нельга ні вытлумачыць, ні апраўдаць ні будучым дабрабытам, ні працвітаннем.

А колькі яшчэ ахвяр ляжа на алтар Яго Вялікасці Рынку?.. І можа, калі гэта не пад сілу дзяржаве, мы з вамі ў стане хоць неяк дапамагчы адзін аднаму? Падтрымаць тых, хто адкінуты дзяржаўнымі "эксперыментамі" за рысу беднасці. Так, міласэрнасць здавён лічылася прывілеяй багатых. І дарагі для незаможнага быў не кавалак кілбасы ці хлеба з маслам, падараваны яму, а клопат і спачуванне да яго становішча. І як бы цяжка ні было, галоўнае — не даць адчаю пусціць сваё карэнне, перамагчы чалавечую годнасць.

Дык будзьма ж вартыя імя свайго — Людзі!

**Наталля Плыткевіч.**

## АСТРАЛАГІЧНЫ ПРАГНОЗ

1992 год пачаўся для Беларусі і большасці дзяржаў новага Саюза з шоку, выкліканага так званай "лібералізацыяй цэн". А што чакае нас далей? Непальскі астролаг Д.Лохані прадказвае:

Планеты абяцаюць сусветнаму супольніцтву спрыяльныя ўмовы, пры якіх ваенныя блокі будуць распадацца, а навукоўцы зробяць буйныя вынаходствы на карысць чалавеку. У прыватнасці, у медыцыне. Росту ж сусветнай вытворчасці будзе спадарожнічаць інфляцыя, а страта маральных каштоўнасцей выклікае дэградацыю духу. Захаваюцца рэгіянальныя "гарачыя кропкі", самай небяспечнай з якіх застаецца Блізкі Усход, бо арабаізраільскі канфлікт не страціць вастрыню.

Што тычыцца СНД, то астролаг прадказвае яму цяжкія часы, асабліва ў першым паўгоддзі. Канфлікты будуць вырашацца сілай зброі, рэзка ўзрасце злачыннасць, правапарадак стане амаль ці не абстрактным паняццем.

Але дапамога Захаду не толькі змякчыць крызіс, але і закладзе пэўныя асновы для наступнага развіцця. А былыя саюзныя рэспублікі ўсё ж сыдуцца на кампрамісах, якія прадухіляць канчатковы хаос.

А вядомы маскоўскі астролаг Павел Глоба папярэджвае, што ў гэтым годзе ў нашых краінах па-ранейшаму захоўваецца магчымасць вайсковага перавароту. На палітычнай жа арэне СНД, паводле прагнозаў Глобы, з'явяцца новыя лідэры, магчыма, родам з Сібіры.

НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ:

Спрыяльныя дні — 27, 29, 30, 31; цяжкі для кантактаў і прыняцця рашэнняў — 29; дзень, неспрыяльны для паездак — 30.

РАІМ ПРАЧЫТАЦЬ

У адным з бліжэйшых нумароў "Чырвоная змена" пачне друкаваць новую кнігу Святланы Алексіевіч "Зачараваныя смерцю, або Расказы рускіх самазабойцаў".

**Падрыхтаваў П.Сіманаў.**

* * *

Як жыць у агні? Як жыць навідавоку,
Пад мікраскопам Бога і людзей?
Адкуль прыйшоў ён? З акіяна змроку
Альбо з краіны сонечных надзей?

І суддзі – хто? Так многа пракурораў
Ён бачыў унізе з помніка свайго...
Дзе адвакаты? Ля гармат "Аўроры"
Стаяць усе. Адзін да аднаго.

Яго суддзю пад сэрцам маці носіць.
Зачаты ў сцюжы, голадзе, крыві,
Ён выслухае справу. Скажа:"Досыць.
Бог рассудзіў. Дык не судзіце вы.

Не паўтарайце зла. І прах вярніце
Туды, адкуль прыйшоў ён – у зямлю.
І толькі кніг яголых не паліце,
Бо дым ад кніг звіваецца ў пятлю".

Нам лёгка асуджаць яго памкненні,
Убачыць меч пад чорнаю рукой...
Ляцяць, ляцяць апошнія імгненні,
Нясуць яго ў страчаны спакой.

**А.П.**



## КУР'ЕР ТЫДНЯ



*Святлана Алексіевіч, пісьменніца*

Галоўнае ўражанне тыдня — гэта тое, што мы, нарэшце, ўступілі ў новае жыццё. Мне здавалася, што я ўнутрана падрыхтавана да гэтага новага жыцця, аднак яно аказалася не зусім такім, якім мы яго сабе ўяўлялі. Днямі ў чарзе па хлеб я ўбачыла бабульку-жабрачку, якой не хапіла гэтага бохана. Я падышла да яе і як магла супакоіла, папрасіла ўзяць у мяне грошы. І тое, як яна ўзяла іх, заплакала, мяне перакanала: я не хачу такога новага жыцця, не хачу застацца ў ім толькі з тымі, у каго моцныя зубы і плечы.

Я ўжо пазваніла ўсім сваім сябрам: нешта трэба рабіць, неяк дапамагчы гэтым людзям. Можа, знайшлася б нейкая сталовая з больш-менш шчырымі людзьмі, каб арганізаваць бясплатныя абеды для бедных, старых. Я б давала тысячу, паўтары, сказала б:"Дзяўчаты, толькі не крадзіце ў гэтых людзей..."

Я зараз працую над новай кнігай "Зачараваныя смерцю, або Расказы рускіх самазабойцаў", у якой спрабую адлюстраваць усе нашы страчаныя надзеі, гэта звар'яцелае жыццё.



*Айцец Уладас ПЯТРАЙЦІС, ксёндз-пробашч Мёрскага касцёла*

Ведаеце, за святочнымі днямі ў мяне нават не заставалася часу газету прачытаць. Што ж я магу сказаць? Шмат што абрадвала мяне, але шмат што і пакрыўдзіла. Напрыклад, мясцовыя ўлады ў Верхнядзвінскім раёне забаранілі святкаваць каталіцкія Каляды, загадалі ўсім выйсці на працу. А там шмат католікаў. Навошта так людзям зневажаць? А што радасна — дык тое, што дзяржава нарэшце прызнала і рэлігію,а рэлігійныя святы сталі агульнанароднымі. У нас нядаўна вялікая радасць была — адкрылі ўрэшце нядзельную школу. Наязджаюць манахіні з Літвы, выкладаюць пакуль па-расейску, але малітвы абавязкова беларускія.

І яшчэ мы хочам узвесці ў нас на Мёршчыне першы ў свеце помнік ненароджанаму дзіцяці. Які сэнс закладзены ў ім? Ды вы паглядзіце статыстыку! Колькі дзяцей гіне, яшчэ не паспеўшы нарадзіцца! Чарнобыль і то такой бяды не прынёс. Я б, шчыра кажучы, наогул забараніў усё гэта... Так, менавіта аборты. Вы кажаце, што іх будуць рабіць падпольна і пад рукамі шарлатанаў будуць паміраць не толькі немаўляці, але і маткі іхнія? Дык хіба Маці можа дазволіць пазбавіць сябе свайго сына? У галечы, у беднаце нараджалі, і дзеткі выраслі сапраўднымі людзьмі. Помнік, які мы маркуем збудаваць, і будзе напамінам аб абавязку перад Богам і людзьмі.



*Юрый Хадыка, прафесар, намеснік старшыні Сойму БНФ*

Я мяркую, што падзеі апошніх дзён дэманструюць жыццёвую неабходнасць хуткай змены ўлады. Натужныя прыёмы ў працы парламента, а таксама дзеянні Савета Міністраў, скіраваныя на эфект, а не на рэальнае выкананне, паказваюць, што ў наш час працягваць такія недарэчнасці — значыць прывесці рэспубліку да вялікіх страт. Крызісу ў грамадстве можна было пазбегнуць, калі б улада паруплілася аб гэтым своечасова. Гэта датычыць запозненых рашэнняў аб войску, аб зямлі, аб падатках. Але ўсё рухаецца быццам у запаволеным фільме. У гэтых умовах я лічу неабходнай акцыю, якую распачаў Народны фронт. Гэтая акцыя — кампанія за правядзенне рэферэндуму, на якім павінна быць пастаўлена пытанне аб выбарах, прычым па новым законе. Праект гэтага закона ўжо падрыхтаваны апазіцыяй.

Самай важнай падзеяй не толькі для Беларусі, але і наогул для дэмакратыі ва ўсіх рэспубліках, я лічу нядаўні сход вайскоўцаў. Ён нёс вялікую пагрозу для дэмакратыі. Войска — сіла кансерватыўная, і ў прынцыпе яно і павінна быць кансерватыўным. Тым больш радасна, што сход скончыўся так бяззлобна.

*СА СВАЁЙ ЗВАНІЦЫ*

# ШТО ПАСЕЕШ, ТОЕ І ПАЖНЕШ

Мудрэц сказаў: калі жадаеш міру — імкніся да яго; калі хочаш дабрабыту — працуй! Імкненне народаў да сацыяльна-палітычнага спакою і прывяло да еднасці адзінаццаці рэспублік, што стала самай адметнай з'явай у віры апошніх гадоў.

Палітыкі і дыпламаты, асабліва пласт максімалістаў з новага пакалення паліталагічнага корпуса, абмяркоўваюць гэты гістарычны факт з розных бакоў — партыйных, нацыянальных, бізнесменскіх. Але гэта садзейнічае толькі накапленню інфармацыі. Сапраўдную тэарэтычную ацэнку дадуць вучоныя значна пазней, а гістарычную каштоўнасць Садружнасці Незалежных Дзяржаў сцвердзіць само жыццё.

Але ў пачатку развіцця новай супольнасці народаў можна асэнсаваць фактары, якія ўжо сёння моцна ўздзейнічаюць на народную гаспадарку нашай рэспублікі, развіццё ўнутранай і знешняй палітыкі, міжнародны аўтарытэт Рэспублікі Беларусь.

Пагадненні паміж рэспублікамі, эканамічны патэнцыял якіх складаў асноўны падмурак савецкай краіны, адразу спынілі паглыбленне крызісу, што з задавальненнем сустрэта ў народзе. Закончыўся перыяд гібельнага разрыву эканамічных сувязей, з-за якога пераставалі працаваць беларускія заводы, а таварны рынак ператварыўся ў пагражальную пустэчу.

У артэрыях жыцця зноў запульсавала энергія стваральнасці. Цяпер ёсць упэўненасць, што нафта і газ, вугаль і руда ранейшым шляхам і неабходным патокам будуць ісці ў нашу рэспубліку. Беларусы таксама не замкнуцца ў сваёй натуральнай гаспадарцы, а будуць задавальняць унутраныя патрэбнасці і аддадуць суседзям таварныя накапленні ў выглядзе выдаткаванай прадукцыі. Гэта значыць, што прайшла пара роспачных пошукаў, страху і нацыянальнай збянтэжанасці людзей перад беспрацоўем, голадам, і што там можа быць далей?

Патрэбна адзначыць, што для нашай рэспублікі гістарычны момант прадастаўляе найбольш спрыяльныя ўмовы. Сацыяльна-эканамічныя праявы характарызуюцца большай арганізаванасцю і дынамізмам, чым, напрыклад, у той жа Расіі. А гэта азначае, што стартавыя магчымасці на шляху эканамічных пераўтварэнняў у нас больш трывалыя і перспектыўныя.

Цяпер многае, а можа нават і ўсё, залежыць ад таго, як выканаўчыя і гаспадарчыя кіраўнічыя структуры і органы на ўсіх узроўнях змогуць выкарыстаць сітуацыю для адладжвання ўсяго народнагаспадарчага комплексу. Настала пара не чакаць, што нехта арганізуе і зробіць, а дзейнічаць; прытым актыўна і вынікова ўсім тым, хто атрымаў ад дзяржавы на гэта права.

Размова аб межах, нават аб стварэнні сваіх армій і г.д. не павінна адсунуць на задні план эканамічныя праблемы. Тут неабходна аддаць належнае ўсім кіраўнікам рэспублік, якія і ў Алма-Аце, і потым у Мінску 30 снежня надалі гэтаму асноўны сэнс у перагаворах. Хаця зноў нават журналісты гэтага не заўважылі. У "Правде" паважаны публіцыст нават з нейкім сарказмам адзначыў, што другая мінская сустрэча не дасягнула жаданых вынікаў.

У тым і бяда шматлікіх празорцаў, што пажаданае хавае за сабой і факты, і доказы. Справа ў тым, што да новай мінскай сустрэчы амаль паміж усімі дзяржавамі Садружнасці ўжо былі заключаны двухбаковыя эканамічныя пагадненні, якія пачалі працаваць з дня іх падпісання.Такім чынам, у Мінску быў нададзены новы энергетычны імпульс гэтаму працэсу, пры тым без Нова-Агароўскай бясконцай цяганіны.

Чытачы прывыклі да тэрміну "разбалансаваная эканоміка". У аснове апошняй ляжыць адзін з важкіх фактараў — гэта свавольства з вытворчасцю і з забеспячэннем комплектуючымі вузламі і дэталямі, якога мы паспяхова дасягнулі за гады перабудовы.



Дык вось цяпер настала паратункавая пара ў вырашэнні гэтай праблемы. Садружнасць Незалежных Дзяржаў зыходзіць з адной эканамічнай канцэпцыі, якая сталюецца на ўзаемадапамозе, узаемавыгадзе і ўзаемапавазе, прыбліжанай да запатрабаванняў кожнай рэспублікі і нават непасрэднага прадпрыемства і яго людзей. Бачыцца таксама, што кіруючыя структуры атрымалі акрэсленасць у сваіх дзеяннях калі не на прававых, то на арганізацыйных прынцыпах. Гэта фактар адметны. Усім вядома, што функцыянальная дзейнасць кіраўніцкіх інстытутаў усіх узроўняў настолькі неэфектыўная, што не можа авалодаць сітуацыяй: энергія дэзарганізацыі значна мацнейшая, чым стваральныя працэсы.

Цяпер гэта формула мае зменную тэндэнцыю.Акрэслілася эканамічная прастора ў маштабе Садружнасці, а таксама (што найбольш важна) вызначыліся канкрэтныя задачы кожнай гаспадарчай галіны і нават асобных прадпрыемстваў і калектываў.

Пагадненне аб супольнасці дзяржаў пашырыла магчымасці гаспадарчай прадпрымальнасці, прадаставіла неабсяжны эканамічны небасхіл для выніковай вытворчасці і неабходнай гарантыі для накаплення тавараў народнага спажывання. Ёсць надзея (ужо і ў прэсе зніклі заклікі да вынішчэння, напрыклад, калгасаў і саўгасаў і г.д.), што цяпер кожная дзяржава і Рэспубліка Беларусь павінны перайсці ад абмеркавання глабальных праблем да выратавання самых надзённых. Што гэта за праблемы?

Першаасноўная — гэта абарона размеркавання прадуктаў народнага спажывання ад злачыннага механізма куплі-продажы; кантроль над выцяганнем агульнадзяржаўных сродкаў у дармянны капітал невытворчых кааператываў і так званых малых прадпрыемстваў, дзе нарадзілася ўжо эксплуатацыя ў самым неверагодным выглядзе: не непасрэдна чалавека, а эксплуатацыя вынікаў ягонай працы, што вядзе да вельмі небяспечнай з'явы — хуткага абядняння асноўнай часткі насельніцтва. Гэта можа і ў нашай "ціхай" рэспубліцы прывесці да непажаданага ўзрыву. З нас хопіць і аднаго Чарнобыля.

Да звыштэрміновых праблем адносіцца адраджэнне прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Не тэарэтычна, а практычна ў сэнсе поўнага разумення ўсімі ад кіраўнікоў да кожнага працоўнага, што манна нябесная— гэта ілюзія і што нельга ўсім быць багатымі ў беднай краіне, а толькі працай, назапашваннем нацыянальнага прадукту можна зрабіць яе заможнай.

Як усё проста і зразумела! Але чамусьці нашы палітыкі і сродкі інфармацыі нібыта аглухлі і асляплі, што вось-вось ужо пачнецца вясна. Першая вясна незалежнасці— і патрэбна адсвяткаваць яе добрымі всевамі.

На нашых "бедных" прадпрыемствах працэнт вытворчасці працы і якасці прадукцыі спадае да сярэдняй адзнакі. Аднак усё больш даляраў адыходзіць на "Вольвы" і "Форды" і інш., якія нас не выцягнуць з прарыву. Толькі дысцыпліна, адказнасць, эканамічна-прыбытковыя меры могуць прымусіць да ўздыму стрэлку росту вытворчасці.

Аналіз эканамічнага становішча паказвае, што і эйфарыя ўваходу ў рынак на разбэшчанасці дробных прадпрымальнікаў ужо заканчваецца, таму што яны тавару не даюць, а толькі дзяруць з людзей грошы, як лыка, імкнучыся абагнаць і без таго шалёныя дзяржаўныя цэны.

Таму час падштурхоўваць як мага хутчэй стварыць эканамічныя і прававыя ўмовы і стымулы для фарміравання сучаснага працаўніка, вытворцы і гаспадара.

Памкненні ж асобнай часткі кіруючай і народнадэпутацкай кагорты прыдумваць чарговыя віткі перабудовы бессэнсоўныя. Настаў цяжкі і адказны час будавання. Гэтага ўсе чакаюць і падмуркам стваральнасці з'яўляецца Садружнасць Незалежных Дзяржаў.

**Алег СЛУКА,**
**доктар гістарычных навук.**

Вострaў надзеі

# НЕМЦЫ ПАД ЧЭРЦАМІ




Прыблізна год таму ў Лепельскім раёне высадзіўся незвычайны нямецкі дэсант. Наведаўшы вёску Чэрцы, немцы вырашылі... пабудаваць двухпавярховыя дамы і падарыць іх перасяленцам з чарнобыльскай зоны.

Арганізатарамі той акцыі ў Германіі быў пастар Дзітрых (ад Вестфальскай зямлі), а з нашага боку – фонд "Дзецям Чарнобыля" пад кіраўніцтвам дэпутата Вярхоўнага Савета Генадзя Грушавога.

На працягу ўсяго лета пастар і яго памагатыя, у тым ліку жонка і сын Дзітрыха, працавалі не пакладаючы рук. Прычым і тэхналогію выкарыстоўвалі для мясцовых жыхароў не зусім звычайную: тое, што было пад рукой, – салому, гліну. І атрымлівалася няблага. Такія традыцыйныя для Германіі дамы не толькі вельмі надзейныя – стаяць стагоддзі, але і прыгожыя.

– Безумоўна, у першую чаргу мы жадаем дапамагчы пацярпелым сем'ям з зоны ўладкавацца на новым месцы,– тлумачыў свой учынак пастар Дзітрых, кіраўнік групы і, уласна кажучы, арганізатар гэтага праекта.– Але была і іншая мэта. Мы хацелі, каб людзі на ўласныя вочы пабачылі, што пабудаваць сабе жыллё яны могуць і самі. І для гэтага не абавязкова вялікія грошы і дэфіцытныя ў вас будматэрыялы. Дастаткова жадання і тых матэрыялаў, што ёсць пад рукой.

Нават за мяжою людзі ўжо заўважылі, што мы не здольныя на ініцыятыву, прывыклі чакаць, што нам дадуць, зробяць. І тым карысна такая ініцыятыва пастара Дзітрыха, разлік якога спраўдзіўся. Людзі падыходзілі, цікавіліся тэхналогіяй, прапаноўвалі дапамагчы і заставаліся на працы. Пяць двухпавярховых сядзіб стаяць гатовыя, тры пачалі будаваць. Але з прыходам зімы будоўля была часова спынена – да лета. Немцы паехалі да сябе на Нямеччыну і толькі Бернард Энгеленд добраахвотна застаўся, каб рыхтаваць усё неабходнае для працягу працы.

Вёска супакоілася. Але раптам у Чэрцах і ў бліжэйшых да яе вёсках Адамаўка, Лютчыцы, Дрэмаўшчына з'явіліся знаёмцы з Нямеччыны, не дачакаўшыся надыходу вясны. Прыехалі яны з падарункамі да беларусаў на Каляды. Сорак тон прадуктаў, адзення і лекаў прывезлі немцы ў падарунак жыхарам гэтых вёсак. Безумоўна, атрымаць падарунак на свята прыемна. А, зрабіўшы скідку на сённяшняе становішча дзяржаўнай эканомікі, можна ўявіць, як былі рады сяляне. І, у сваю чаргу, яны запрашалі гасцей у хату, да небагатага, але зычлівага стала.

Акрамя харчу і лекаў, у пасылках былі адрасы тых сем'яў, што даслалі падарункі сваім беларускім сябрам. І гэта зразумела – людзі жадаюць пазнаёміцца бліжэй.

І калі Ульрыхт Рыхтэр збіраўся ў адваротны шлях (прыехаў ён, дарэчы, на ўласным грузавіку і за ўласныя грошы), шмат хто з атрымаўшых падарункі перадалі з ім лісты з адказамі і падзякамі сваім новым сябрам.

Мэта пастара Дзітрыха – каб сяброўства гэта працягнулася доўгія гады. І беларусы, і немцы разумеюць і прымаюць яго погляды. А значыцца, так таму і быць.

Зміцер Лукашук.
Фота Я.Коктыша.













усялякае святло арміі ценевікоў. Вам жа (як таго і жадалі!) застаюцца толькі вострыя пачуцці...

І каля сценкі з каляровых тэлевізараў такое самае становішча. Толькі людзей тут значна болей, бо для многіх (мажліва і для вас?..) гэта адзінае месца, дзе можна паглядзець тэлеперадачу.

Увогуле ж супермаркет нагадвае музей пустых прылаўкаў, якія, кажуць, таксама хутка расцягнуць.

Але вось, убачыўшы спадароў і спадарынь у час бегу сцябаючых адзін аднаго пустымі валізамі, вы запальваецеся азартам: значыць тут дзесьці штосьці "выкінулі"...

І сапраўды, каля аднаго з аддзелаў натоўп як на бэнээфаўскім мітынгу. Трэніруючы вока (нібыта ў дтсаафаўскай стрэльніцы) вы нарэшце знаходзіце апошняга ў чарзе.

— Што даюць?

Але замест адказу, "апошні" зробіць міну, быццам вы спыталі: ці ёсць жыццё на Марсе? відовішча і ў сне можна страціць прытомнасць! Але здабыты "прыз за стойкасць" раскрывае праўду — гэта... не сон.

І потым, як праз вату, да вас датукваецца, што казачны аддзел зроблены для таго, каб пашырыць ваш, зніжаны да непрыстойнасці, пакупніцкі кругагляд! Бо кошты тут у СКВ. А каб не перашкаджалі духоўна абагачацца нашым грамадзянам розныя там іншаземцы, кошты значна вышэй, чым за мяжой.

Але дбанне пра пакупнікоў "Беларусі" на гэтым не сканчаецца. Відаць, каб усе яны развівалі ногі, апускальныя эскалатары адключаны — таму разам са стогнучымі бабулямі вам даводзіцца пераадольваць пломбы высокіх прыступак.

Спын!— ужо натрэніраваны ў гэткім Доме цудаў мозг дае знаць, што на пошукі вячэры ў нашых гастраномах проста не застаецца часу. І вы па-геройску наважваецеся адвячэраць у кавярні супермаркета.

— Это сухая витрина!— выкрыквае гандлярка

# Пацучок хвастом віляў,

## але не ў полі, а ў вылажцы кавярні крамы "Беларусь". Ці ж выпадкова гэта?..

*Вы любіце вострых пачуццяў? Адкіньце свае мроі пра паходы ў даліну Смерці ці скачкі на гумавых канатах з галавакружнай вышыні. Усё гэта дробязі ў параўнанні з Мінскім супермаркетам "Беларусь"!*

ТУДЫ ЛЕПЕЙ за ўсё прыйсці а палове на дзесятую раніцы, калі толькі праз частку дзвярэй (астатнія, як не прыкра, замкнёныя), быццам ратуючыся ад прыроднай навалы, прэ ва ўсю азлоблены народ. Па горадзе гуляе факт, што ў такой даўцы тут нядаўна насмерць затрушчылі жанчыну. Ну, а калі вы "ўвайшлі", пазбавіўшыся толькі гузікаў, ці можа — рукава, дык маеце цудоўныя падставы спаборнічаць ва ўсходніх аднаборствах.

Штурмуюць супермаркет і іншаземцы з суседскай гасцініцы, што мае сімвалічную назву "Хотел турист". Але ніяк не могуць уразумець тыя госці, у якой краіне знаходзяцца. Бо нават у краме "Беларусь" большасць шыльдаў пісана не па-беларуску!

Суайчыннікаў жа, звыклых з традыцыйным нігілізмам, больш цікавіць шэраг рознакаліберных лядоўняў. Сапраўды, іх можна мацаць, нават расчыняць, уяўляючы ў сябе дома запоўненымі, як у старыя часы, рознымі забытымі ўжо прысмакамі. Але гэткай мары, відаць, не наканавана збыцца. Бо роднанькі Мінскі завод лядоўняў больш працуе на плямёны Умба-Юмба, чым на беларусаў. Таму многія менчукі адыдуць у нябыт, так і не дачакаўшыся, покуль падыдзе іх чарга. Затое сёння маюць права набываць гэткія рэчы або ветэраны ледзь не Грунвальдскага пабоішча, або мафіёзі з затхняючай Маўляў, якая розніца!

Сапраўды, дзе яшчэ давядзецца так выпрабаваць сваю вытрымку? Вы становіцеся паўнапраўным членам гэтай самай распаўсюджанай супольнасці людзей пры "перестройке".

Чарга ж не надта спяшаецца, І, здаецца, застрайкаваў сам час. Але, сціснуўшы зубы, вы ўсё лічыце да ста, і вось паступова хвіліны зліваюцца ў гадзіны.

Ура, дасталяся! Зараз толькі ёг, якога закопвалі жывым, варты з вамі паспаборнічаць. Потым, азіраючыся па баках, каб не сцібрылі, вы працягваеце кабеце за прылаўкам самую канверсуемую беларускую валюту — пакаверчаны цэтлік з візітоўкі. І вось дзякуючы ўсім святым вы сціскаеце бясцэнны пачачак пральнай путры — ад радасці заплюшчваюцца вочы...

І раптам... Багі! Багі! Велізарны аддзел, дзе на паліцах дзесяткі самых шыкоўных красовак — на любы густ, мужчынскія і жаночыя скураныя чаравікі, маднецкія армячкі і нагавіцы, самыя сучасныя тэлевізары, магнітавіды, магнітолы! І няглядзячы, што самы высокі кошт — некалькі сотняў, тут няма аніякіх чэргаў. Наадварот, пад запіс Міхася Джэксана гандляркі даволі ветліва раяць рэдкім пакупнікам, што можна набыць.

А вы то намацваеце рукой будзік, то праціраеце вочы, бо, зразумела, ад такога літаральна кожнаму, хто ўказвае на затоеную за шклом багатасць цестак.

Што ж, давядзецца задавальняцца чэрствай булачкай...

Але раптам...

— Пацучок! Пацучок! — запішчалі дзеткі, скеміўшы, што ў перакладзе з ангельскай слова "супермаркет" — гэта заапарк.

І сапраўды, унутры "сухой вітрыны" прама на цестках з нахабнай звыклацю падарожнічае самы што ня ёсць сапраўдны пацучок! Відаць, гэтак дырэктар крамы Іван Іванавіч Гарбуз выражыў пацешыць сваіх наведвальнікаў.

Але людзі толькі раўнадушна стрэльнулі вачыма па тлустай жывёлінцы і... пачалі далей глэмзаць свае сухарыкі:

Мінуўшых усе колы (што там — пекла!) супермаркета "Беларусь" — цяжка ўжо чым-небудзь здзівіць.

**Алег Юшкевіч,**
**часты наведвальнік**
**крамы "Беларусь".**
**Калаж А.Смірнова.**



# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

*Двор без мамы — народ без мовы...*
*Ды агонь святы не пагас.*
*Ёсць душа — будуць вешчыя словы,*
*Двор збірацьме, зняверaных, нас...*

Васіль Зуёнак

Няўжо і праўда мы мяняемся? Прызнацца, меней за ўсё прымаю за змены той Броўнаўскі рух, якім ахоплена зараз, скажам так, геапалітычная прастора пад назваю АШЧС (ці толькі Адна Шостая Частка Сушы?). І не адно таму, што палітыка нагнала аскому. Іншы раз і сам пачынаеш падпарадкоўвацца таму Броўнаўскаму хаосу — прырода ёсць прырода — і, разгублены, тады не ведаеш, куды ўцякаць, дзе схавацца альбо кінуцца ў спячку, каб спакойна, па-чалавечы перазімаваць палітычнае міжсезонне. І не адно таму, што любыя наваўвядзенні болей ужо не выклікаюць анічога, апрача раздражнёнасці, а любыя новыя абрэвіятуры: будзь то "эсэсы" ці "эсдэ" — аднолькава непрыемныя наклікаюць асацыяцыі, прынамсі, на мяне, беларуса, чыйму бацьку некалькі грамаў свінцу, падараваных у сорак другім пад Серпухавам, не давалі жыць спакойна аж да самай смерці. Не ведаю, дый не надта хачу ведаць мэтаў місіі спадара Жырыноўскага на Беларусь, як не хачу даваць веры, што ў жырыноўскіх ёсць пэўная палітычная перспектыва менавіта на адной шостай частцы сушы, якая БАЧЫЛА УСЁ. Але інтуітыўна ўсё ж адчуваю: любы хаос — лішні шанц для дыктатуры. А таму з аднолькавай доляй скепсісу і горычы ўспрымаю сённяшнія палітычныя гульні дэмакратаў, гэтаксама, як некалі ўспрымаў палітыканства іх "крестных отцов" з партыйнай наменклатуры. Ва ўсялякім разе, эйфарыі з прычыны жнівеньскай Змены Шыльдаў не падзяляю, бо добра разумею: мы не Манголія — мінуць грамадска-палітычную фармацыю і пераскочыць на прыступку вышэй усё роўна не зможам, а значыць, трэба быць рэалістам.

І ўсё ж, чалавек так створаны, пакуль жыве — павінен верыць. Я веру вяскоўцу. Мне імпануе сялянская разважлівасць, удумлівасць, няспешнасць. Селянін не пойдзе баставаць, колькі ні падсоўвай яму салодзенькіх лозунгаў, бо ў яго — свой лозунг: забастую, а як задажджыцца, ды паляжа хлебец, а як жа нядоенаю застанецца кароўка, а некормлены парсючок усё ў хляве разнясе. Вось табе і дзяржаўная мудрасць, вось і вышэйшая палітыка.

Я не веру гораду не столькі за тое, што ён да гэтага часу наіўна думае, быццам

*Заўсёды маме*
*Хлеб даюць у нашай краме,*
*А цукеркі, як вядома,*
*Дзед прыносіць з гастранома, —*

колькі за тое, што ён і не хоча думаць па-іншаму. Горад лічыць вёску не проста дойнай каровай, але і суб'ектам, які цярпець павінен "здзек праз увесь каровін век", бо ні на што іншае не здольны. Лічыце, спадары, бо інакш бы не крычалі, кожны на свой капыл: дайце селяніну зямлі. Вазьміце ж яе самі — на здароўе. А разам з ёю забярыце і той уклад жыцця, які сфарміраваў пэўны ўзровень культуры ў вёсцы. Казаў той Панчанка:

*Разагналі клас сялян,*
*Збеглі ўсе да горада.*
*Кожны жулік — сёння пан*
*З пагардлівай мордаю.*

Але не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. У страшныя дзесяцігоддзі духоўнага генацыду беларуская вёска не паспела заглынуць гэтулькі "цывілізацыі", каб разбеларусіцца канчаткова і назусім, і тут яна аказалася ў выйгрышы на фоне горада. Дзеці селяніна ніколі не будуць, пагаліўшы скроні, шукаць сабе прыгодніцкага "досуга" — НЯМА ЧАСУ. Праўда, ім НЕ БЫЛО ЧАСУ і заканчваць спецшколы з англійскім ухілам, затое ж НЕ БЫЛО ЧАСУ забываць тую мову, на якой, хочуць ці не хочуць, размаўляюць іх бацькі. Размаўляюць, бо так ім лацвей. Толькі не падумайце, што селянін аказаўся болей нацыянальна свядомым, чымся гараджанін. Не, псіхалогія манкурцтва сунула нос і сюды, у вёску, толькі вось людзі там працавалі і ім не было часу з ёю асабліва няньчыцца.



Вёска урбанізуецца, пусцее фізічна і духоўна, і гэта, па-мойму, самае жахлівае, бо апошні шанц на выратаванне, які пакінула нам бязлітасная гісторыя, мізарнее проста на вачах. Тым болей аптымізму прыдаюць кволыя парасткі Адраджэння, якія сям-там пачынаюць праклёўвацца на няўдобіцы.

Няўжо і праўда мы мяняемся? Глыбокай восенню, справіўшыся па гаспадарцы, у вёсцы Зорычы, што на Барысаўшчыне, наладзілі свята сельскага працаўніка. Быў звычайны даклад, як заўсёды, раздавалі прэміі, ды людзі не спяшаліся разыходзіцца, прывыкшы да прывазных канцэртаў. Але канцэрт аб'явілі "мясцовым". І тут пачаліся сюрпрызы, пасля якіх яны адкрывалі адзін аднаго па-новаму і па-новаму пераасэнсоўвалі некаторыя каштоўнасці, якія, здавалася б, застылі вечным стэрэатыпам.

Напачатку бацькі глядзелі на дзяцей сваіх на поўныя вочы.

*Кума, мая кумацька, дзе зівес,*
*Ласказы мне плаўдацку,*
*куды йдзес?—*

спяваюць артысты: пяцігадовы Саша ды Вераніка. А трохгадовая Надзейка пытаецца ў залы:

*Ты чыя, ты чыя, ты мама мая,*
*А я, а я, я дочка твая. Так, мама?*

Шасцігадовы Валерка — у чорнай жалобе. Забыліся даць яму мікрафон. А так жа хацеў выступіць!

Затым на поўныя вочы глядзелі дзеці на бацькоў. Як было не глядзець?

Маленькі Артур ніколі ў жыцці не бачыў маму такой, ну... такой! Стройная ў доўгай белай сукенцы, нейкая далёкая, загадкавая і— самая прыгожая на свеце. Дзіва, што ён не вытрымаў і смела пашыбаваў прама на сцэну...

*Бацькі і дзеці...*
*Бацькі?*
*Якія там бацькі!*
*У іх жа "продкі"—*
*Ад зайздрасці ўсё сварацца, злуюць.*
*Малыя тут з калыскі чуюць плёткі*
*І бачаць, як бацькі гарэлку п'юць.*

Яны побач, бо разам жывуць, але кожны — у сваёй асобнай дзяржаве, не раўнуючы, новая гістарычная супольнасць — савецкі народ пасля вядомых Белавежскіх пагадненняў. Мабыць, нездарма дзяцей штовечар папярэджвала калыханка:

*Недзе ў Белавежы дрэмле зубраня...*

І вось яно прачнулася. Хто казаў, што між паэтаў не бывае прарока? Зубраня прачнулася. Не стаць бы яму зверам разладу між людзьмі, бо які прарок ці экстрасенс здолее сёння правесці межы там, дзе іх ніколі не існавала?



*Не спявай мне песню пра арэлі*
*І пра сон дзяўчыны на зары...*
*Азвярэлі людзі, азвярэлі.*
*Вы даруйце, добрыя звяры.*

Людзі нагарадзілі такіх платоў, што нават дзяцей уласных перасталі за імі бачыць. А дзеці бачаць усё. І пакуль дарослыя у доўгіх чэргах апусташаюць самых сябе, дзеці гуляюць у дарослых.

Валерка прыходзіць дадому дый пытаецца:

— Мамка, а калі перабудова скончыцца?

У мамкі валасы дыба.

— А што здарылася, сынок?

— Дык жа яна ўсе шакаладкі паела. І машыны ніводнай няма ў магазіне. Столькі ж было...

Мама з татам смяюцца:

— З'елі партыю, з'елі Саюз, а што зімою есці будзем?

Зрэдчас дзеці і дарослыя абменьваюцца дружалюбнымі афіцыйнымі візітамі, як і належыць прадстаўнікам розных краін, і шчасце, калі тыя візіты заканчваюцца двухбаковым пагадненнем, як тое было ў Зорыцкім клубе, дзе арганізатарам ды ініцыятарам сустрэчы на дэмаркацыйнай лініі стала загадчыца мясцовага дзіцячага садка Людміла Іванаўна Аніскові́ч, дзе яе падтрымалі вяскоўцы, стварыўшы агітбрыгаду "Бацькі і дзеці". І аказаліся бацькі, нават самі не чакаўшы, і таленавітымі, і вясёлымі, і вельмі сцэнічнымі. Няхай выбачаюць, што не магу пра кожнага з іх распавесці асобна. Дый не тое галоўнае, па-мойму. Жывое, напоўненае ўсімі колерамі радасці, нібы вясёлка над рэчкаю Начаю пасля кароткага і ачышчальнага майскага дажджу, пасля доўгае зімовае спячкі, беларускае слова нарэшце вярнулася ў Зорычы, яшчэ нязвыклае, нават дзівакаватае ў родных пенатах, нібы з эміграцыі, але сваё, роднае. Інačай быць і не магло.

**Уладзімір МІХНО.**

## НАША ХРОНІКА

За другую палову мінулага года сябрына літаб'яднання "Крыніцы" значна папоўнілася як паэтамі, так і празаікамі.

Гэта —
Віктар Аніскевіч,
Паўлюк Быкоўскі,
Андрэй Вашкевіч,
Кастусь Ворсін,
Алесь Гібкоўскі,
Кастусь Елісееў,
Наталля Казапалянская,
Ігар Карповіч,
Ягор Конеў,
Міра Лукша,
Вікторыя Малышава,
Алесь Туровіч,
Зміцер Цэхановіч,
Людміла Шчэрба.

Бадай, усе гэтыя маладыя аўтары жывуць, працуюць і вучацца ў Мінску. Адно празаік Міра Лукша — жыхарка горада Беластока. Тым не менш яна даволі часта наведвае нас, прымае ўдзел у творчых вечарынах крынічанцаў.

* * *

ЛІТАРАТУРНЫМІ ПРЭМІЯМІ штотыднёвіка "Чырвоная змена" за 1991 год адзначаны наступныя нашы аўтары:

ПРОЗА

Юлія Алесьніна

— за апавяданні "Мне прысніўся ручай" (№ 12 ад 18—24 сакавіка) і "Зачаўрэлая кветка" (№ 46 ад 11—17 лістапада).

ПАЭЗІЯ

Анатоль Брусевіч

— за нізкі вершаў ( № 29 ад 15—21 ліпеня; № 38 ад 16—22 верасня).

Ігар Карповіч

— за падборку вершаў у снежаньскім літвыпуску "Крыніцы" (№ 51 ад 16.12.—22.12).

Рада "КРЫНІЦ".



## Алесь Дзітрых

* * *

Нараджаюцца зоркі і гінуць бясследна
ў тузе, забыцці, адзіноце.
І толькі нямногім выпадае кахаць.
Зоркі гэтыя ў вольным палёце
сустракаюцца ў адзіноце
і разам ляцяць.

* * *

Калі наплывае ноч
стуль, дзе сёння ўставала сонца,
зямля халадзее ад страты.
Шчымяць над разрытай магілай
таемныя зоры.
Гэта вольныя душы,
што лятуць у сонечны вырай.



## Вольга Акуліч

* * *

Асноўна мэта ў размове – урэшце замоўнуць,
раптоўна і разам, каб між цішыні зразумець,
што словы, асэнсаваныя і бессэнсоўныя, –
рып колаў: то едзе на клячы гісторыі Смерць.

Спалохацца прадчування, маўчаць і не слухаць.
Пачуўшы пытанне, крычаць ці смяяцца ў адказ.
І між неразумных, разгубленых словаў і рухаў
крануцца рукі і прамовіць: "Баюся за нас".

* * *

Небяспечнасць размовы гадую,
бы сяджу на нязручным крэсле.
Я скажу табе: "Не шкадую,
не жадаю былога закрэсліць".
І на першым восеньскім снезе
напішу, што не забывала,
з кім спявала сумныя песні
і каго ў слязах цалавала.

* * *

Дзень спакойны, як ніколі,
праплывае над зямлёю.
Затрымай руку ў руцэ –
і не трэба словаў.
Досыць болю і пакутаў.
Хай нянавісці атрута
чорным пылам па рацэ
адплывае ў невядомасць.
Хвалі лёсу, хвалі часу
супакояць горыч страты
і народзяць на зямлі
новы прывід шчасця.
Прывід новага кахання
не спалохай, будзь пяшчотны.
І калі наш дзень ад стомы згасне –
мы згарым ад страсці.

* * *

У поўню размовы заўжды пра пакуты:
сумныя словы ды рухі няхуткія,
рукі халодныя, вецер паўночны.
У поўню ў Сусвета сумныя вочы.

Ён весяліўся б – толькі сумуецца.
Мы цалаваліся б – ды не цалуецца.
Вулкі – то ў шэрым, то раптам чароўныя:
у поўню дарогі заўсёды няроўныя.

Розныя мы. Адзінотай-ахоўваю
боль ахапіць і любоў асэнсоўваць,
і – дагарэць, і няўмольнай умовай:
у поўню каханне заўсёды нервовае.

* * *

Мой спакой – святы,
і калі ёсць ты,
непакоюся,
тым – грашу.
Бачыш, вершы табе пішу.

* * *

На вуліцах Вільні, дзе час
стаміўся быць разбуральным,
яна стане моцнай, і сёння адказ
яе прагучыць натуральна:
– Кахала і здраджвала, але
забыла ўсё і прасіла спакою.
Прасіла, ды Бог не дае...
І брук набрыняў крывёю.



## Людміла Шчэрба

### Зорныя мелодыі

Я чую музыку зор.
І бачу музыку зор...
На нотнай старонцы нябёсаў
раскіданы зорныя ноты —
то музыка розных лёсаў.

* * *

Твой цень праследуе мяне:
ты і на яве, ты і ў сне.
Я не магу цябе забыць,
ніяк мне боль не загаіць...
Я дагарэла ў небе зоркай,
не даляцела да зямлі.
Навошта ружы водар горкі?
Навошта плачуць жураўлі?
Чаму і кволы дождж, і сонца
не маюць сэнсу без цябе?
Чаму маўклівa і бясконца
рабіна хіліцца ў журбе?..
Ламлю галінку я ў руцэ.
Слязінка змерзла на шчацэ.
Зара не стрэнецца з зарой,
як не сустрэцца мне з табой.

### Беларуская мова

Што ўвабрала у сябе мая мова?
Можа, ззянне імклівае зор,
або ранішні промень барвовы
ці бязмежны сцюдзёны прастор?
Можа, матчыны песні і казкі,
што з маленства ў душы пранясеш,
сарамлівыя кволыя краскі,
што ў тугія вяночкі пляцеш?
Ці адвечную думку народа,
горкай долі пакуты і боль,
неабдымную мару свабоды,
ці жыццёвае мудрасці соль?

І бязлітасны грукат сталёвы,
і кахання нясмелага сон...
Так, усё гэта родная мова,
зачараваны слоў перазвон.



## Наталля Бордак

* * *

Ты з непрыгожай –
адзін, са мною.
Глядзі, харошы,
як за ўдавою.
Мяне пакрыўдзяць –
ты абароніш.
Усе пакінуць,
а ты – дагоніш.
Застудзіць сэрца
сумнення вокліч.
Дасі сагрэцца
і – супакоіш.

### КАХАНАМУ

Да часу без лусты хлеба
мне трэба адно гавець,
бо маю, магчыма, з неба
аблокі на стан адзець.

З нябёсаў прымераю прагу
пазнання дабра і зла.
Пярэсціць няхай стылягі –
я ў белым сюды прыйшла.

Убачыш мяне здалёку –
я мроя тваіх вачэй.
Быць вечнай нявестай нялёгка,
а жонкай яшчэ цяжэй.



ГОРАД. *Малюнак Наталлі Бордак.*



Анатоль Крэйдзіч

*Вершы ў прозе*

## Немаўля

Немаўля не ведае,
што такое страх.
Яно смела вылузваецца
з высока падвешанай калыскі
і... падае на падлогу.
Яму балюча,
але яно яшчэ не разумее,
адкуль узяўся гэты боль.
Чалавек да тае пары немаўля,
пакуль не навучыцца бачыць наперад,
да чаго могуць прывесці
яго дзеянні.

## Чалавек і айсберг

Чалавек запытаўся ў айсберга:
– Колькі сябе хаваеш ты пад вадою?
– Столькі ж, – адказаў айсберг, –
колькі думак сваіх ты хаваеш
ад людзей.

## Пункт гледжання

Селянін гаворыць:
– Пры арэндзе я амаль што гаспадар.
Адкуль такое сцверджанне,
бо пры гэтай форме гаспадарання
ён – амаль што сыты.
Начальнік гаворыць:
– Пры арэндзе селянін – гаспадар.
Так, начальнік і пры арэндзе сыты.

## Авангардыст

Усе людзі жывуць адносна чагосьці.
Веруючыя – адносна Бога.
Няверучыя – таксама адносна Бога.
Адны вешаюць у куты сваіх хат абразы.
Другія – здымаюць іх.
Я ведаю чалавека,
які не жыве адносна Бога.
Ён жыве адносна
таямнічага чорнага прамакутніка,
намаляванага на чырвоным палатне.

## Экспромт

Жонка з сяброўкаю
разглядваюць прыгожае футра з лісы...
– У-у, драпежніца, – сказала адна,
гладзячы футра.
"А хто ж тады мы, людзі, якія
забілі лісу?.." –
ледзь не вырвалася ў мяне.

*Гасцёўня*



Павел Марціновіч

### Пра лаўры

Густа паэтаў завешвалі лаўрамі...
Самі ж паэты рабіліся лярвамі.
Эх, за лаўры –
білі ў літаўры
і салавейкі тыя,
і жаўры!

### Імпэт

Давай, жывапісуй, Алесь,
прэзідыум СП увесь
і ўсю прыёмную камісію!..
Яны тваю ацэняць місію.

### Л.Сухнат і М.Круглею

На ўсё жыццё Сухнат з Круглеем
"двухмоўя" склееныя клеем.
Ці то Круглей, ці то Сухнат?
Яны – нібы сястра і брат.
Не адцягнуць, не адпаяць.
"Двухмоўе" ж гэтае – на "яць".

### В.Дашуку і А.Петрашкевічу

Калі пайшоў Алесеў воз на схіл –
забыў Дашук, што й ёсць такі Эсхіл!

### Аўтарцы "Дзённіка жанчыны"

Даўно твае гады жаночыя мінулі!..
Свой дзённік назаві..."Нататкамі бабулі".

### Аўтаркам "новага" падручніка "Гісторыя БССР"

Падручнік пераробленны карэнна.
Ужо няма на вокладцы Лаўрэна.

### Сямёну Букчыну

З архіўных куч Букчын Сямён
нямала выграб нам імён.
І чын займеў. Бяда ж – у чым?
Сваё імя зглуміў Букчын.

### Філосафу А.Майсеню

Хоць лапсардак Майсенеў новы,
ды нагавіцы – Бегуновы.

### Новаму паслу ў ЮНЕСКО

Гіне мова, як той зай.
У Парыж ляціць Мазай.

Хто з вас, браткі, не ахвочы
дым пушчаць замежжу ў вочы?

### Экс-мэтру

Картавы той, прыблудны з Волгі "вецер"
не шандарахнеш больш
выданнем трыццаць трэцім.





Алесь Пашкевіч

*Мініяцюры*

*Спазнаць я прагну,*
*ці захаваліся і памяць і той плён,*
*які дзяды чакалі, кідаючы семя*
*на бацькаўскі і мой цяпер загон...*

М.Стральцоў

### Дзядуліны словы

Чую з дзяцінства дзядуліны словы: "Хоць генералам будзь, а касіць умей".

З'ела дзядулю зямля, з'іржавела ў застрэшшы маленькая коска, а генеральскія зоркі непахісна зіхцяць на пагонах шматтоннай брані, з-пад якой кволіцца няскошаная трава...

### Старое павер'е

– Раней кароўцы, якая цуралася свайго двара і мінала яго, давалі з'есці з засланкі ад печы хлеба, і тая заўсёды прыходзіла дадому, – пачуў я з вуснаў маці, а ў вачах яе прачытаў: "А што рабіць з людзьмі?.."

### Погляды

Гляджу на свет вачыма старога пчаляра. Талокі пчол у мройнай мітусні ляцяць праз густыя прысады дадому, у спякоту і ў холад трапляючы на ганак свайго вулля, ніколі не зблудзіўшы...

Гляджу на свет выбітымі вачыма пакінутай хаціны. Мрояцца ў густым зарасніку людскія натоўпы, што блудзяць пры ветры па ўсім свеце, шукаючы незнаходнага.

Радуецца пчала-матка сваімі дзецьмі, што густа рояцца каля вулля, сцірае ў цёмнай хатцы матуліну слязу старэнькая бабка, мяняючы ў святле тонкай свечкі бялюткі абрус бліз іконы Боскай Маці. З выцвілых вачэй слёзы не могуць вымыць просьбы аб дапамозе.

Вокам цыклопа глядзіць на хату поўня.

### На мяжы

Узрушваўся і ўзрушваюся цудам птушкі Фенікс, якая знішчала сябе і нараджвалася, якая спальвала сябе дзеля свайго адраджэння.

Гоніць па Беларусі чароўна-стоены попел вецер. Згарэлі ў святым Адраджэнні яе мінулыя Феніксы.

У пустым прысаку тоіцца жыццё?..

### Продку

Ты ўжо склаў снапы і вяртаешся дамоў, нясеш на плячах спрацаваную стомленасць. Ты шэпчаш вячэрнюю малітву, каб, уплёўшыся ў хату, праглынуць кус хлеба і адчуць пад спінаю млоснасць смольнай лавы, пакрытай сцёртым кажухом. Лапцёўная нага зачэпіцца за няскорную купіну, і ты саб'ешся, і звечарэлая абшарнасць будзе зноў прымаць шчыра-спешную малітву...

Мне застаўся зэканомлены табою час. Продкавы цені дранцвеюць у чаканні нашых Слоў і Спраў.

Кожны ранак шугае ўверх прамяністае святло са сваёй штозолкавай мальбой да высяў.

Кожны вечар штозмяркальным трэбам неба кідае ў скрытае небыццё чырвоную заламоўку сонца...

### Амаль легенда

– Жыцця не стала ад гэтага працаю, – са збітай звыкласцю ўздыхнула суседская кабета і зноў прынялася лупіць з сухой зямлі зелле. Хоць і лёгка паддаваліся невялічкія карэнні, ды сцяблінь з някідкім зялёным лісцем густа ўкрывалі зямлю, амаль хаваючы бульбоўнік. Маленькія кветкі, нібы зменшаныя ў сотні разоў сланечнікі, пладавіта скідвалі ў глебу сваё нахабнае семя. Такое ўжо гэтае зелле – працай. Працуй не працуй, рві не рві – усё роўна расце.

– Ужо й Працай стары памёр, а ліха гэткае да яго ніяк збірацца не хоча, – уздыхнула, квохчучы, знаёмая кабета.

...А здарылася гэта так. Працай, калі яшчэ быў сакавітым мужчынам, купіў сабе ў суседнім раёне ладны возік сена і ехаў дамоў. Па дарозе засумаваў крыху, ну і, як гэта вядзецца, пачаў марыць чарвячка, і чым далей, тым болей. Густа падліўшы ж – драмнуў. А пры самым заездзе ў вёску абярнуўся са сваім сенам...

У ім і было тое зелле. Праз месяц яно ўжо густа расквітнелася па ўсёй вёсцы. З учэпістага нораву вясковых языкоў завёў небарака Працай сабе двайніка па прозвішчы. "Свой Мічурын", – кпяць з яго дзядзькі.

А слава пра Працая разам з семем яго пітомца вылецела далёка за межы вёскі, так што і ў суседнім раёне зелле гэта працаёвым завуць.

Выходзіць, што пакінуць свой след на зямлі можна й з воза не злазячы...

### Ваўкацішча

У вёсцы дасюль памятаюць Базыля, які пасвіў бліз вёскі свайго каня. Рабіў ён гэта ноччу, ну а каб, заснуўшы, не згубіць яго, да нагі свайго папялястага прывязваў доўгі пасак, і конь, спутаны, цягаў за сабою хлапца. Як толькі ён залазіў у зараснік, які пачынаў сабою лес, дробнае кустоўе слізгала па твары, і пастух, прабудзіўшыся, ускокваў, цягнучы каня назад, павучальна крычаў: "Ну куды ж ты, дурнішча, – там жа ваўкацішча!.."

Але не ад ваўкоў было наканавана выцерпець хлапчыне. Маці, дазнаўшыся, як нясе сваю службу сын, прыцікавала аднойчы, і як толькі конь зайшоў у кустоўе, накінулася з дубцом на гора-пастуха. Той толькі спрасоння і змог скочыць на ногі і запішчаць, ад чаго папялясты стаў на дыбкі і бліснуў між дрэў, цягнучы за сабою нашага бедалагу...

Праз тыдні два, крыху ачуняўшы ад садноў і сінякоў, Базыль расказваў, як цяжка было яму бараніцца ад мядзведзя...

### Ваўчыца

Згадаў аповед старога лесніка аб паляванні на ваўчыцу. Шэрую тулягу абклалі ў нары, куды тая прыйшла накарміць сваіх згаладалых ваўчанят.

Доўга не вылазіла ваўчыца, адчуваючы на сваім парослым ганку небяспеку. Праз дзён дзесяць яе, яшчэ жывую, вынялі з ціскоў пасткі, згаладалую, слабую, без... хваста. Яго адгрызлі ваўчаняты, якім голад даваўся цяжэй. Старая ваўчыца, нашчадак рымскай карміліцы, стрымала іхнюю боль, а, можа, і сама адкусіла...

Беларусь, ахвярная ваўчыца, грызуць тваё цела дзеці твае, брудзяць кроў смяротнымі актывамі, а ты штораз падстаўляеш ім кволае вымца з жыццёўным малаком.

### Скарбы

Прысніў ноччу коней, што выгадаваў мой прадзед Мітрафан і якія на царскай выставе занялі прызавое месца. Дбайны продак прывёз з сабою 5 кілаграмаў чырвонага золата ва ўзнагароду...

Хаджу сёння па зямлі, што купіў той за яго палову і дзе жывуць цяпер мае бацькі, ветліва сустракаючы на Радаўніцу і на Дзяды сцень продка Мітрафана, які, прывітаўшыся, падае мне скураную аброць, голасам ветру кажа: "Разгані сум, разамні канёвыя косці..."

А пад час навальніцы сур'ёзным жартам клічу бацьку шукаць прадзедаў скарб.

Рвуць вогненнымі дзідамі маланкі мой сон, вабяць сваімі крыжаваннямі да марыўнага скарбу. Праменяць заранкі.

Абрыўкава бачу з сабою здзіўленага нашчадка, на чыіх далонях праменіцца радыеактыўная зямля, што скрыла ўсё назаўсёды... Пад гнілым бульбоўнікам іржавее ў пустым прысаку лапатка. Сціскаю голаў, кідаюся ў тлумную вірлівасць сну. Светлай заламоўкай з нязнойдзенага скарбу глядзіць зверху сонца, акіслена высвечваючы маё падзенне.

"А можа, гэта адзін з тых срэбнікаў, за якія прадалі Хрыста?.." – крычыць наўздагон апошняя кропля свядомасці.



Мікола Гілевіч

* * *

Кульнулася хмарка пад божай рукой,
Нібыта на лаве вядзерца з вадой...
Кульнуўся ў халодным віры вадзянік
Так цяжка ды так па-старэчы і... знік,
А ў небе з яго рагатаў маладзік.
Ён рогатам гучным парушыў спакой.
Ён зоркі куляў зухаватай рукой.
Ён прагнуў жыцця... але знік раніцой,
Нібыта дзядок-вадзянік пад вадой...

* * *

*Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду лёдам, а'дзяўчат шлюбным чэпкам, — кажуць у народзе.*

Павучок дзяўчыну цалуе
ў кутку пад святым абразом.
"Бог пажома, Бог пашкадуе", –
скаланаецца шэптам дом.

Павучка яна не скідае –
павуцінка на белай руцэ
ёй каханага прыгадае –
слёзы скоцяцца па шчацэ.

"Што за весткі нясе
пацалунак твой павуковы?
Ці каханы ўспомніць пра словы,
што начамі й днямі казаў,
Ці ж мне выпала стрэць Пакровы
не ў вясельным уборы – у слязах?"

...Павучок дзяўчыне пакіне
павуцінку на белай руцэ
і каханага –
...ва ўспаміне
са слязьмі на мяккай шчацэ.

## Я ішоў...

Я ішоў праз сляпое каханне,
Цераз ночы ў смяротнай кляцьбе
І пакутныя шэрыя ранні...
Я ішоў да цябе.

Беспрасветным атулены змрокам,
Я канаў у самотнай журбе
І не чуў за сабой сваіх крокаў...
Але йшоў да цябе...

Ды ўсё ж сам смерці смерць напрарочыў.
Як на злосць самому сабе
Апрытомнелі мёртвыя вочы –
Я прыйшоў да цябе.

* * *

*Таму, хто шукае падманную волю.*

Не знайшоў у жыцці, дык і ў смерці не шукай.
Кінь запалку ў спакусліві рай,
Узрасці на гарэлішчы гай –
Пагудасты самотны свой гай.
Бы ў палацы, застанься там жыць.
...І пачуеш: ваўком будзе выць,
Выць-прасіцца ў НЯВОЛЬНЫ твой гай
ВОЛЬНЫ вецер.

## Перадсмяротнае слова вернага брамніка

Смерць сваю – адно, што дам я людзям.

Пад замкнёнай брамай я памру,
ключ распалены спячэ мне грудзі,
і, як корч, пад сонцам я згару.
Заслязяцца мураваныя вачніцы
і каменнямі прыкрыюць мой шкілет,
а мой ключ не выдасць таямніцы,
размяжуе браму і Сусвет.
Кожным днём яго метал барвовы
рукі хціввых будзе апякаць,
...а ўначы пад крык трывожны соваў
прыйдзе здань мая пад браму начаваць...

Здань мая
ніколі мне не з'юдзіць, –
нат калі ёй скажа мудры час,
каб тайбу сваю адкрыла людзям, –
не аддасць ім брамнага ключа,
бы душу маю,
на здзек ім не аддасць.

## Смерць паэзіі

Адубелая поўня чакае,
чакае,
Да відна не счакае...
А ўдзень
Павыходзяць паэты, бы зграі
Згаладалых ваўкоў, да людзей.
Павыносяць балесныя вершы,
Быццам труны на голых плячах.
З чорных дошак з апошняю верай
Будуць словы касцямі тырчаць...
Ды не знойдуць спрадвечнай пашаны,
Разбрыдуцца ваўкі, хто куды:
Хто ў царкву,
хто ў карчму,
а хто – рана
На любімыя змалку клады.
...Люду ж выцьме здурнелы вятрыска:
"За паэта сягоння сам Бог!
Як ніколі, сягоння, ён – нізка...
Піша вам, мерцвякі, некралог!"



## Паэт

*Максіму Багдановічу*

На крывіцкай зямлі срэбны суджаны конь
Разбівае ганебныя крушні.
Срэбны вершнік нясе незгасальны агонь
Душаў продкаў у нашыя душы.

Так нясе нам Паэт праз пакуты і боль
Думку-мару, цяжарную вершам,
Што народзіцца й будзе гарэць, як сымболь,
Як наш срэбны і суджаны вершнік.

## Сон

Ён зірнуў у бязмежную бездань,
Бо адвесці не змог прагных воч.
У шырокіх грудзях стала цесна,
Бы душа яго рвалася ўпроч.
І каханая знічкай здалася,
І былое жыццё – небыццём,
І тады ўпершыню засмяяўся
Ён, акуты празорлівым сном.





Мікола Кананові́ч

## Інтэрнацкая гулянка

Слоікі. Шклянкі. Пляшкі. Талеркі.
Вясёлыя хлопцы. П'яныя дзеўкі.
Пах перапаленай рускай гарэлкі.
На брудных штанах — вельмі вострыя стрэлкі.
Тонкія пальцы. Дрыжыць цыгарэта.
Ад попелу сорамна стала паркету.
Дым не знаходзіць выйсця пад столлю.
Двое спрабуюць займацца любоўю.
Двое спрачаюцца. Трэцяя плача...
Вяселле сабачае гэта — няйначай!

## Паэт

Табе не хапае слоў —
Дзеяслоў ты бярэш для рыфмы,
Як рэчка вясной з берагоў,
З пачуццяў выходзіш прыкрых.

Табе не хапае цяпла —
Сорак градусаў для сугрэву!
І паліш сябе да тла,
Каб толькі не страціць веру.

Табе не хапае сіл,
Упэўненасці і грошай —
На могілках, ля магіл
Тады не дарэмна ходзіш.

Сваё прозвішча на крыжы
Можа, з сотню разоў чытаеш.
Часцінкай чыёй душы
У той час сябе адчуваеш?

Гэта — твой талісман!
Калі жывых не хапае...
Няўжо і ў смерці падман
Ад забыцця чакае?

## Дыялектыка

Коціцца кола дзён завядзёных:
Экспромтам — сцэнарый, авансам — жыццё...
Ану, падыходзь, ты, з кагорты дзябёлых, —
Мо зробіш якое ў сабе адкрыццё?

Бярыся за гуж і забудзь пра нядужасць,
Шчасце — білет латарэйны: авось
Твая ўсяленская чорная жудасць
Вылецца ў сэрца другога кагось...

**Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка (Дом друку. Праспект Ф.Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-65-46.**

**Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь Масарэнка.**

# Невядомае інтэрв'ю Ігара Талькова

# ЛЕБЕДЗЬ З ДУШОЮ ХУЛІГАНА

*Маю сустрэчу з Ігарам Тальковым нельга назваць выпадковай. Я супрацоўнічаў некаторы час з перадачай Беларускага радыё "У абедзенны перапынак", спецыялізаваўся па "зорках" рок- і поп-музыкі.*

*Летам 1989 года імя Ігара Талькова сярод іншых значылася ў афішах праходзячага не першы год пампезнага шоу на стадыёне "Дынама" ў гонар свята горада Мінска. Усё атрымалася як нельга лепей: менеджэр Талькова сам прынёс у музычную рэдакцыю радыё 45-мінутныя студыйныя стужкі з новымі запісамі Ігара і сказаў, што спявак гатовы сустрэцца з журналістамі.*

*І вось аднамесны нумар у гасцініцы "Беларусь" (аднапакаёвы — не "люкс"), мы размаўляем, прычым дастаткова доўга, і толькі частка размовы, "спецыяльна" прызначаная для перадачы, запісана на стужку. Асабіста ў мяне склалася ўражанне, што запіс не быў самамэтай нашай размовы. Бо нават для таго часу (а гэта было зусім нядаўна) тое, што Талькоў тады гаварыў, было, мякка кажучы, смела.*

*Дарэчы, пад час нашай размовы адбыўся эпізод, маленькі штрышок да партрэта Ігара: мы размаўляем, ідзе запіс, уваходзіць даволі бесцырымонны малады чалавек і безапеляцыйна паведамляе: маўляў, мы, здымачная група Беларускага тэлебачання, зараз запішам з табою, Ігар, кароценькае інтэрв'ю, і справу усяго на пяць мінут. Талькоў як мог спакойна сказаў: "Вы бачыце, мы размаўляем, так што зачыніце, калі ласка, дзверы!"*

*Такім чынам, я нарэшце ўключаю магнітафон.*

**— Ігар, давайце з самага пачатку пра Вашу кар'еру.**

**І.Т.:** Я пачынаў у 1973 годзе. Бачыце, які я стары ўжо. Мне не так мала гадоў, як хацелася б, і не так шмат, як вы можаце ўявіць. Мне 32 гады ўжо, 15 гадоў дзесьці я працую на сцэне (нагадваю, размова адбывалася ў 1989 г. — Я.П.), з двухгадовым перапынкам — быў у арміі. Працаваў на прафесійнай сцэне, пачаў пісаць і музыку, і тэксты прыблізна ў адзін час, у 1974-1975 гадах. Але, вы ведаеце, як у нас было ў той час: калі няма спецыяльнай музычнай адукацыі, калі няма ведаў, калі ты не член Саюза, калі ў цябе няма вялікіх грошай, калі ў цябе бацька не "круты", прабіцца практычна было немагчыма. І ў мяне да 1987 года выконваць свае песні магчымасці не было ніякай. Шматлікія мастацкія саветы і Расканцэрта, і розных рэспубліканскіх філармоній, у якіх я працаваў, мне забаранялі спяваць мае песні. Мне даводзілася спяваць чужыя, працаваць аранжыроўшчыкам, часта проста працаваў у рэстаране, таму што не свае песні мне спяваць не хацелася, а жыць трэба было. Бо я, акрамя як іграць і спяваць, а яшчэ пісаць, больш нічога ў жыцці не ўмею. Я працаваў у многіх групах у якасці музыканта: бас-гітарыста, барабаншчыка, клавішніка, гітарыста. Але заўсёды марыў аб тым, што калі-небудзь я дамагуся свайго і буду спяваць назапашаныя за гэтыя гады песні. У мяне іх болей чым сто.

Радыёслухачы і тэлегледачы мяне ведаюць у асноўным як лірычнага спевака. Вось толькі нядаўна мне ўдалося крышачку прабіць сцяну, паказаць свой імідж песняй "Россия". А дагэтуль, акрамя "Чистых прудов", нічога практычна не было.

**— Раскажыце больш падрабязна пра гэты перыяд Вашай творчасці. Бо дзякуючы "Чистым прудам" да Вас прыйшла вядомасць, ці не так?**

**І.Т.:** У 1987 годзе я працаваў у Тухманава ў "Электраклубе". Дакладней, прыйшоў у восемдзесят шостым, год папрацаваў аранжыроўшчыкам. І спяваў крыху яго песні. Мне падабалася ўсё, што я там спяваю, таму што я не лічу сябе спеваком, я лічу сябе выканаўцам сваіх песень. Мае песні ў мяне атрымліваюцца, чужыя — не, гэта мая думка. Я думаю, што спявак, дапусцім, той жа Павел Смяян, праспяваў бы "Чистые пруды" намнога лепш, чым я. Там усё залежала ад аранжыроўкі. Я прыдумаў гэту аранжыроўку, гэты акардэон: та-да-да-дам... Змяніў крыху мелодыю, зрабіў мадуляцыю — і песня неяк загучала. У прынцыпе, паўтаруся, хто-небудзь яе праспяваў бы лепш, чым я, прычым намнога. Але атрымалася, што яна стала папулярнай, на тэлебачанне пасыпаліся пісьмы, і тэлебачанне запрасіла мяне з ёю на "Песню года". Як толькі прайшла "Песня года", мне тут жа прадаставілі магчымасць працаваць на сцэне і спяваць усё, што я захачу. І я пачаў выконваць свае песні, а "Чистые пруды" выключна толькі тады, калі моцна просяць. У тым іміджы, у якім я зараз працую, я працаваў усё жыццё, проста мяне такім не ведалі. У мяне ў Кіеве быў цікавы выпадак. Падышлі пасля канцэрта дзве жанчыны і пачалі прад'яўляць прэтэнзіі: "Чаму Вы прыехалі сюды, нейкія хуліганскія песні спяваеце і наогул выглядаеце жудасна! Мы прывыклі Вас бачыць усяго ў белым, з акардэонам — такі белы лебедзь: светлы, чысты, а вы нейкая шпана! Што гэта за агіднасць!.." І г.д. Я пасмяяўся і кажу: "Вы мне прабачце, што я не ўпісаўся у вашы ўяўленні, але я быў такім усё жыццё. А тое, што тэлебачанне высвяціла мяне "Чистыми прудами", у тым я не вінаваты". І потым, я не цураюся лірыкі. У мяне ёсць лірычныя песні, але іх значна менш. Дзесьці 80 працэнтаў песень сацыяльных і 20 працэнтаў — лірычных.

**— Але песня "Россия" таксама стала папулярнай дзякуючы ТБ. Раскажыце, калі ласка, гісторыю яе стварэння.**

**І.Т.:** На ВДНГ тры гады таму існавала ў адным з павільёнаў такая перасоўная выстава ворагаў рэвалюцыі і герояў рэвалюцыі. У маленькім памяшканні на сценах віселі партрэты членаў Рэўваенсавета, чырвонаармейцаў, камандармаў і г.д. А на другой сцяне, на процілеглай, віселі партрэты белагвардзейскіх афіцэраў, камандзіраў, камандуючых і г.д. Урангель, Дзянікін, Краснаў, Юдзеніч... Мяне гэта выстава ўразіла, таму што дагэтуль Юдзеніча, Краснова, там, Дзянікіна, Урангеля, Карнілава я бачыў толькі на карыкатурах. Нам з першага класа іх малявалі пачварамі, сграшыдламі з выпуклымі вачыма, а членаў РВС такімі прыгожымі... Вы ведаеце, у ворагаў рэвалюцыі былі прыгожыя твары, добразычлівыя вочы, нічога сквапнага, жорсткага я ў гэтых вачах не ўбачыў. І, наадварот, на той сцяне, дзе віселі партрэты членаў РВС, я ўбачыў якраз тое, што прыпісвалася ворагам рэвалюцыі. Там ляжаў сшытак аднаго генерала расстралянага, ён ляжаў пад шклом, раскрыць яго не было ніякай магчымасці. Дзённік Лютаўскай рэвалюцыі, дзённік грамадзянскай вайны — там усё гэта было апісана. Ну, а паколькі я займаюся гісторыяй у вольны час, стараюся даставаць матэрыялы пра нашу рэвалюцыю і перад-, і паслярэвалюцыйны перыяды, — сшытак гэты мяне вельмі зацікавіў. Я дастаю дакументы, перапячаткі ўсялякія. Я дастаткова доўга гэтым займаюся, таму навучыўся ўжо адрозніваць праўду ад няпраўды. Усе злілося разам: тое, што прачытаў, даведаўся і ўбачыў на той выставе. Мне запала ў душу гэта тэма: гэты сшытак, гэта гісторыя, гэты расстраляны генерал — і доўга стрэмкай непакоіла мяне. Я не мог ніяк прыдумаць форму: самае галоўнае — прыдумаць форму, ідэя — гэта добра, але калі яна не ўвасоблена ў адпаведную форму, то песні не атрымаецца.

Нечакана для сябе ў горадзе Астрахані на гастролях таксама сядзеў у нумары, схапіў ручку, нотную паперу, гітару і напісаў песню. Вельмі хутка я яе напісаў. Песня была гатова праз гадзіну. Поўнасцю. Ведаеце, гэта па-рознаму адбываецца. Ёсць песні, над якімі я б'юся гадамі і ўсё роўна не падабаецца. А гэта песня атрымалася так, адразу. Пайшло, пайшло, пайшло, як быццам маёй рукой нехта вадзіў...

Мы з Ігарам размаўлялі яшчэ доўга. Ён расказаў, як прапанаваў "Россию" для перадачы "Да і пасля поўначы". Песня вельмі спадабалася Уладзіміру Малчанаву, і творчая група тэлепраграмы, маючы ў рабоце ўсяго толькі адну камеру (уся тэхніка была занята на з'ездзе), зняла кліп, і як потым амаль да самага эфіру было невядома, ці выйдзе сама праграма, яе праглядалі цэнзары з КДБ. Яшчэ ён расказваў пра свае адносіны з фірмай грамзапісу "Мелодыя", але ўсё гэта было ўжо з разраду прыватных размоў.

Пасля расказу Ігара аб стварэнні песні "Россия" маю перадачу павінна была завяршыць сама песня... Інтэрв'ю на радыё так і не выйшла. Не-не, не падумайце, што яго не прапусцілі. Проста я не хацеў, каб яно выйшла "распалавіненым", як ужо было з маёй перадачай пра групу "ДДТ" і Юрыя Шаўчука. Карацей кажучы, гэта інтэрв'ю, дарагія чытачы, публікуецца ўпершыню. І, напэўна, яно б так і не ўбачыла свету, калі б не трагічны выпадак. Няма больш Ігара Талькова, але песні яго застаюцца. І гэта інтэрв'ю — хай не зусім удалы, але ўсё ж такі праўдзівы эскіз да партрэта спевака, паэта і кампазітара.

**Яўген Пучкоў.**

Фота С. Брушко.

ПРАБЛЕМА

# «ГАМАСЕК», або Хто і як сёння змагаецца са СНІДам?

*Вялікі сяміпавярховы будынак 2-й інфекцыйнай бальніцы на Сакалінай гары ў Маскве. Тут размешчаны Усесаюзны цэнтр па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам. На сёмым паверсе — клінічнае аддзяленне. На першы погляд, бальніца як бальніца: палаты з ложкамі і тумбачкамі, сталовая. Але пацыенты тут — абсалютна здаровыя знешне людзі, якім, тым не менш, засталося жыць некалькі гадоў, а магчыма, усяго некалькі месяцаў. Сярод іх шмат маладых рабят і дзяўчат, ёсць дзеці і старыя. Кожны тут жыве з пастаяннай думкай аб тым, што смерць зусім побач, адзін неасцярожны крок, і ўсё — выратавання не будзе.*

— ПЕРШАЯ рэакцыя чалавека, які даведваецца, што ён інфіцыраваны ВІЧ,— шок,— гаворыць эпідэміёлаг Цэнтра Ірына Георгіеўна Саўчанка.— Поўнае асэнсаванне крушэння ўсіх жыццёвых планаў. Малады чалавек, які даведваецца, што яму засталося жыць усяго 3—5, максімум 10 гадоў, адчувае проста панічны жах за сябе, сваю будучыню. Калі ён гомасексуаліст, то баіцца распаўсюджвання інфармацыі аб сваёй сексуальнай накіраванасці. Шмат бісексуалаў жанатыя — не даведалася б жонка, што ён спіць з мужчынамі (хаця аб тым, што ён інфіцыраваны, яму расказаць нашмат лягчэй). Большасць інфіцыраваных — маладога дзетароднага ўзросту. Таму вялікай маральнай траўмай для кожнага з'яўляецца асэнсаванне таго, што ўжо нельга мець дзяцей, бо ніхто не дасць гарантыі, што малыш не народзіцца ВІЧ-інфіцыраваным. Большасць савецкіх урачоў паняцця не маюць аб існаванні ўрачэбнай тайны, і калі ўвесь горад даведваецца аб тым, што чалавек заражаны СНІДам, то жыццё яго становіцца проста нязносным. А людзі ў нас практычна неадукаваныя ў гэтых пытаннях, да інфіцыраваных СНІДам адносяцца так, як калісьці адносіліся да пракажоных. Адбіваецца і невысокі ўзровень культуры, і азлобленасць ад агульнай неўладкаванасці...

**ІНФІЦЫРАВАНЫ А., 26 гадоў, бісексуал.**

— Ведаеш, самае цяжкае — адносіны да нас суграмадзян. У асноўным, як правіла, гэта жах з сумессю агіды. Калі сталі вядомы вынікі маіх аналізаў, аб тым, што я інфіцыраваны, даведаўся ўвесь горад. Нават па тэлебачанні была разгорнута цэлая кампанія супраць мяне. Нас ператвараюць у казлоў адпушчэння, настройваюць супраць нас людзей, каб яны маглі спагнаць злосць, што накапілася ў бясконцых чэргах па прадукты.

**— Я чуў, што ты знаходзішся пад следствам?**

— Так, гэта непрыемная гісторыя... Справа ў тым, што хутка пасля таго, як я даведаўся, што заражаны, пазнаёміўся з адным хлопцам, які прапанаваў правесці з ім ноч. Я яго сумленна папярэдзіў, але ён усё роўна настойваў. Мы скарысталі ўсе меры перасцярогі, але потым аказалася, што ў яго знайшлі вірус. Апошні кантакт быў са мной, пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу, хаця з боку майго партнёра не было заявы і наогул ніякіх прэтэнзій. Невядома, можа ён яшчэ да кантакту са мной быў заражаны. Тым не менш цяпер мне пагражае да васьмі гадоў турмы. І незразумела, напрыклад, чаму наша заканадаўства аб крымінальнай адказнасці за распаўсюджванне СНІДу не прадугледжвае моманту, калі чалавек добраахвотна згаджаецца на палавы акт з інфіцыраваным, чаму супраць мяне ўзбуджаецца крымінальная справа, калі "пацярпеўшы" супраць мяне нічога не мае?..

**— Ці заўсёды ты адчуваў сябе бісексуалам?**

— Не, мой першапачатковы сексуальны вопыт быў звязаны з мужчынамі. З гомаэратызмам мяне пазнаёміў родны дзядзька, калі мне было 17 гадоў. Ён абдымаў мяне, мілаваў, мы разам спалі, але далей петынгу нашы сексуальныя адносіны не заходзілі. Потым у мяне было яшчэ некалькі гомасексуальных кантактаў. Я не любіў часта мяняць партнёраў, аддаваў перавагу пастаянным сустрэчам з адным чалавекам. Але заўсёды ў мяне прысутнічала пачуццё, што гэта нешта ненармальнае, ненатуральнае. Я пазнаёміўся з дзяўчынай, сувязь з якой у мяне працягвалася 2 гады. Усяк было: сварыліся, мірыліся. Але аднойчы пасля чарговай сваркі я пайшоў да яе. Мне не было куды падзецца, і я пайшоў на тое месца, дзе збіраюцца "блакітныя". Пазнаёміўся там з адным чалавекам, ад якога, як потым высветлілася, заразіўся СНІДам.

*УСЯГО ў рэспубліках былога СССР, паводле звестак на 17 лістапада, зарэгістравана 674 ВІЧ-інфіцыраваных грамадзян. Дыягназ СНІД у 63 чалавек. Памерла з дыягназам СНІД — 22 (вынікі выкарыстання аднаго шпрыца пры ін'екцыі). Дзяцей інфіцыравана — 291. 21 дзіця было народжана ад інфіцыраваных маці (г.зн. за імі назіраюць на працягу трох гадоў: калі антыцелы маці знікаюць, то дыягназ знімаецца, калі антыцелы працягваюць выяўляцца, то дзіця ўжо сапраўды лічыцца ВІЧ-інфіцыраваным). Двое дзяцей у нас заразілася пры грудным кармленні. Г.зн. дзве маці пад час цяжарнасці — рэакцыя адмоўная, а пры родах ці пасля пералівання крыві пасля родаў яны заразіліся, працягвалі карміць дзяцей і заразілі іх. 257 дзяцей заразіліся ў шпіталях, дзе адсутнічалі санітарныя ўмовы.*

*95 мужчын заразілася пры гомасексуальным кантакце. 124 чалавекі — пры гетэрасексуальным (47 мужчын і 77 жанчын).*

*12 чалавек заразіліся пры пераліванні інфіцыраванай крыві.*

*18 маці заразілася ад дзяцей пры кармленні грудзьмі. Дзеці былі заражаны ў ачагах інфекцыі.*

*17 чалавек заразіліся у Афрыцы. Прычыну ўстанавіць вельмі складана: можа, гэта была нейкая медыцынская дапамога, хаця хутчэй за ўсё, як правіла, гэта палавы кантакт.*

*У 123 выпадках прычыны заражэння не ўстаноўлены.*

Першапачаткова вірус распаўсюджваўся ў гомасексуальным асяроддзі. Потым за кошт бісексуалаў — ён трапляе ў гетэрасексуальнае асяроддзе, а інфіцыраваныя жанчыны нараджаюць інфіцыраваных дзяцей. Адна з прычын да нядаўняга часу — гэта адсутнасць неабходных санітарных умоў ва ўстановах, выкарыстанне шматразова адных і тых жа шпрыцаў і іголак. Аднак вось ужо каля года падобных выпадкаў заражэння ў нашай краіне не назіраецца.

Вірус яшчэ не трапіў у асяроддзе наркаманаў. Адной з прычын таго, што сярод інфіцыраваных няма ніводнага наркамана, з'яўляецца тое, што ў нашай краіне для прыгатавання наркотыкаў яны скарыстоўваюць рэчывы, у якіх вірус гіне (ацэтон, аміяк і г.д.).

Арганізацыя барацьбы з хваробай складаецца ў нашай краіне вельмі ненадзейная. Мы ўсё яшчэ працягваем жыць па прынцыпу "Пакуль гром не грымне..." Дзяржаўная праграма СССР па барацьбе са СНІДам, зацверджаная толькі 2 чэрвеня 1991 года, наўрад ці будзе выконваць, бо ўсе арганізацыі, адказныя за яе выкананне (Савет Міністраў СССР, ДКНТ СССР, Міністэрства аховы здароўя СССР), скасаваныя. Хто будзе фінансаваць і ажыццяўляць яе — невядома. Рэспубліканская праграма знаходзіцца ў зародкавым стане. Поўным медыцынскім абслугоўваннем хворыя на СНІД не забяспечаны. Будаўніцтва Усесаюзнага цэнтра па барацьбе са СНІДам замарожана на стадыі праектавання. Навуковыя распрацоўкі спыняюцца з-за адсутнасці валютных сродкаў. Прадпрыемствы, якія робяць тэст-сістэмы для дыягностыкі СНІДу, пастаянна адчуваюць цяжкасці з абсталяваннем, памяшканнямі, забеспячэннем. Не наладжана апаратыўнае транспартаванне іх прадукцыі. З-за адсутнасці сыравіны спынены многія лініі па вытворчасці аднаразовых шпрыцаў. Не вырашаны юрыдычныя аспекты барацьбы са СНІДам, адсутнічаюць меры абароны правоў заражаных і, наадварот, неадпаведнасць многіх законаў перашкаджае іх прыцягненню да адказнасці за заражэнне. Дагэтуль у краіне няма пастаянных тэле- і радыёпраграм па СНІДу.



**ІНФІЦЫРАВАНАЯ Н., 25 гадоў.**

— Я выхоўвалася ў дзіцячым доме. Маці сваю не памятаю, бацьку таксама. Пасля школы скончыла тэхнікум. Пазнаёмілася, а потым выйшла замуж за іншаземца афрыканскага паходжання. І вось неяк ён мне паведамляе, што яго звальняюць і дэпартуюць на радзіму. З якой нагоды — адразу не сказаў. Потым, праз некалькі тэлефонных размоў, высветліла, што ў яго СНІД. Для мяне, канешне, атрымаць такую звестку — гэта крах усяго, істэрыка. Колькі было выпадкаў, калі людзі пасля

Калі прыехала ў Маскву, сустрэла тут, у Цэнтры, свайго мужа. Вяселле, якое мы згулялі, адбылося ў гэтай бальніцы, у пакоі. Пасля шлюбу пачалі мы пісаць лісты па інстанцыях, каб мужу дазволілі давучыцца тут і атрымаць дыплом. Год адняла ў нас гэтая працэдура, і з дапамогай былой загадчыцы нашага аддзялення Алы Сяргееўны Гарбачовай нам удалося вырашыць гэтую праблему. Быццам бы ўсё наладжвалася, але лёс распарадзіўся інакш. За месяц да абароны дыплома мой муж прастудзіўся і захварэў. І вось уяві сабе здаровага, моцнага мужчыну, які літаральна згарэў за месяц, не мог самастойна падняцца з ложка. Адзінае, чаго ён тады жадаў, — памерці на радзіме. Мы ўсімі спосабамі дабіліся выкліку санітарнага самалёта, на якім майго мужа адправілі дадому. Я атрымала ад яго адно-адзінае кароценькае пісьмо, з той пары не ведаю, як ён, што з ім, ці жывы...

Я здымала кватэру ў Маскве, і мяне абрабавалі. Знеслі ўсё, абсалютна ўсё, усе грошы, каштоўнасці, дакументы. Апошняя прапіска была ў мяне ў Кіеве, але ехаць туды аднаўляць пашпарт я не магу, таму што там ведаюць аб тым, што я інфіцыраваная. Проста жахліва...

Вось так я і жыву зараз. Без пашпарта, без прапіскі. За кошт той падтрымкі, якую знаходжу тут, у аддзяленні. Большасць сяброў тут — гомасексуалісты. І мне асабіста ўсё роўна. Як гаворыцца, толькі б чалавек быў добры. Калі б не гэтыя людзі, не іхняя цеплыня і падтрымка, даўно б можна было на сябе рукі накласці. А так я яшчэ і падбадзёрваю ўсіх, калі хто засумуе. Мы павінны берагчы адзін аднаго...

МАТЭМАТЫЧНАЕ мадэліраванне дазваляе дапусціць, што ў нашай краіне яшчэ не выяўлена як мінімум 50 000 ВІЧ-інфіцыраваных. Як мінімум... Яны баяцца. Нашай абыякавасці, нашай нянавісці. А мы прывыклі думаць толькі аб праблеме чаргі ў краме ці аб тым, дзе б яшчэ зарабіць некалькі лішніх тысяч. І хочацца крычаць, клікаць: "Спыніцеся, на імгненне спыніцеся!" Зразумейце, што СНІД — гэта катастрофа і прадухіліць яе можна толькі разам, намаганнямі кожнага.

**Аляксей Краўчанка.**

# РЭЦЫДЫВІСТЫ

*Марозны лістападаўскі вецер кідаў у твар жмені дробнага калючага снегу. Дзве постаці крок за крокам аддаляліся ў глыбіню завулка. У няроўным дрыготкім святле ліхтароў іх цені таксама калыхаліся, то рабіліся доўгімі, то зусім знікалі. Мужчына трымаў хлопчыка за руку і крочыў важка, упэўнена; у маленькай фігурцы было нешта вераб'інае, кволае і бездапаможнае.*

Капітан міліцыі Чубараў з Прэзідэнтам Расіі Ельцыным — цёзкі, той таксама Барыс Мікалаевіч. Гэта ён чытаў на камісіі па справах непаўналетніх зводкі: 11 лістапада з кватэры дома па вуліцы Савецкай украдзены 20 пачак цыгарэт, 2 бутэлькі віна, наручны гадзіннік і грошы ў суме 225 рублёў. З бібліятэкі турысцкага склада школы № 1 украдзены... З прыватнага гаража... З кіёска па вул. Матросава...

Злодзеі стаялі тут жа. Было іх усяго трое са злачыннай групы, Ваня Ш. — 14 гадоў, маленькі белабрысенькі хлопчык, стрыжаны "а-ля вожык", быў падобны хутчэй на саплівага пяцікласніка, чым на бывалага злодзея. Яго "падзельнік", Сяргей Б., навучэнец СПТВ-102, побач з сябрам выглядаў "дзядзем Сцёпам". Прадстаўніком ад вучылішча ахарактарызаваны як некамунікабельны, замкнуты, нават дзіклівы хлопец. Цікавая рыса — багатая фантазія, якая нікога не радуе, таму што праяўляецца выключна ва ўменні лгаць педагогам і бацькам. Трэці "адважны", Валодзя Б., вучыцца ў СШ № 5, пра яго сакратар камісіі па справах непаўналетніх сказала: Валодзя адзіны, хто хоча выпутацца з гэтай кампаніі. Астатніх у гэты дзень не было.

А пачалося ўсё са звычайнага, на першы погляд, хлапцоўскага свавольства: адбываючы летам школьную практыку, двое сяброў сцягнулі веласіпед. Проста так, пакатацца захацелася, а паблізу нікога не было. Дзе падзелі яго потым — няма звестак, але дакладна вядома, што рызыкоўным хлопцам жартаваць такім чынам спадабалася. Кампанія склалася, калі закончылася лета, усе вярнуліся дадому. Тут сябрукі і разгарнулі сваю дзейнасць, ды так, што за галаву схапіўся ўвесь крымінальны вышук: амаль дваццаць крадзяжоў за няпоўныя два месяцы.

Аб тым, што злодзеі—падлеткі, тут здагадаліся хутка. Злачынцы звычайна пранікалі ў памяшканне праз акно або праз фортку. Зразумела, што гэта пад сілу толькі невысокаму хударляваму хлопцу. Інспектар па справах непаўналетніх Б.М.Чубараў свой участак ведаў — прыглядзеўся, паназіраў. І малалетнія рабаўнікі прадсталі перад суровымі вачыма камісіі. Першае пасяджэнне адбылося яшчэ ў пачатку лістапада, але яно не стала перашкодай на шляху новых крадзяжоў, ды і не магло стаць. Таму што каб прыняць да падлетка дзейсныя меры, напрыклад, адправіць у спецшколу, трэба, каб такіх пасяджэнняў было не менш чым пяць. Вось і выходзілі хлопцы з высокіх кабінетаў, пасвістваючы ды прыгаворваючы: "Палохае Чубараў, нікуды ён нас не пасадзіць".

— Вам не страшна было ў час начных вылазак? Маглі ж прыйсці гаспадары, убачыў бы хто...

— Ды не, разам не страшна,— увесь выгляд Вані выказвае абыякавасць.— Усё гэта "зэк" прыдумаў, а сам змыўся. Эх!..

— Не хвалюйся, нядоўга ты будзеш адзін у спецшколе. Хутка твой дружок да цябе прыедзе. Слова табе даю!— "супакойвае" злодзея капітан Чубараў.

У адказ той толькі круціць галавой. Цяпер ён быццам у двух вымярэннях адразу. Наперадзе ўжо "маячыць" высокі плот спецшколы, але ён яшчэ тут, і прывычнае жыццё так блізка! Каб можна было хоць адну хвіліну змяніць у ім. Ужо ён знайшоў бы спосаб не сядзець цяпер побач з міліцыянерам! У крайнім выпадку збег бы, не ўпершыню. Эх, жыццё маё, жасцянка!

Жыццё яго і сапраўды не заладзілася з самага пачатку. Маці з бацькам — простыя рабочыя, і хоць цяпер шмат гавораць, што рабочым жывецца лепш, чым іншым, і зарплата ў іх, і тавары Ваневу сям'ю дабрабыт абышоў. У таварышаў па класу былі гумкі, грошы, прыгожыя рэчы, у яго — нічога. Гэта — злавала. Хацелася выдзеліцца, нешта даказаць, стаць лепшым за іншых, але вучоба не ішла, а іншых даных не было. Ва ўсялякім выпадку ён іх не бачыў, пакуль не сустрэўся з хлопцамі, падобнымі на сябе: Сашам, Сяргеем, Вовам, Дзімам.

Саша таксама быў родам "з народа". Моцна п'е бацька, не ўпершыню трапляе за жалезныя краты старэйшы брат. Небяспечныя гены праявіліся і ў малодшага, прычым даволі рана. Яшчэ ў малодшых класах за ім прыкмячалі: то ручку сцягне ў суседкі па парце, то булачку. Потым злавілі на крадзяжы значкоў у магазіне. Выклікалі на камісію. Прыціх Саша, не лез больш нікуды. Ці не злавіў ніхто? І вось цяпер сябры ў адзін голас называюць яго завадатарам ва ўсіх крымінальных справах.

На пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх прыйшоў яго бацька. Адсутнасць сына ён растлумачыў знаходжаннем яго ў іншым горадзе, дзе Саша будзе вучыцца далей.

— Бацькоў можна зразумець, хочуць зберагчы сына, перамяніць яму абстаноўку,—ківалі галовамі члены камісіі.— Нездарма маці так прасіла не адпраўляць яго ў мінулы раз.

І што з гэтага атрымалася? Хлопцы ледзь не ў той жа вечар зноў адправіліся "на справу".

У той дзень камісія па справах непаўналетніх вырашыла накіраваць у спецшколу толькі аднаго з прысутных "рэцыдывістаў" — Івана. Астатнія "недацягнулі".

"Рэцыдывіст" жа, адвярнуўшыся ў куток, размазваў па твары слёзы.

— Адпусціце з мамай развітацца,— раз-пораз пачынаў ён енчыць.— Слова гонару, я заўтра прыеду ў міліцыю. Калі не — садзіце мяне ў турму на тры гады.

— Ты мне тое самае казаў у мінулы раз,— "не паддаваўся" міліцыянер.— А сам збег, улез у гараж, і шукаць цябе давялося. Не, не адпушчу!

Ваня зноў пачынаў румзаць, а я — прыдумваць новыя пытанні, каб зразумець: што ж усё-такі цягнула яго ў зачынены склад, у цёмныя кватэры, на начную вуліцу? Рамантыка? Непрыкаянасць? Жаданне праверыць сябе? Адказ прыйшоў сам сабой.

— А што вы рабілі з украдзенымі рэчамі?

— Палякам прадавалі.

— І шмат было ў вас грошай?

— Ды не.

Яны куплялі за іх гумкі, цыгарэты. І яшчэ было ў Вані даўняе жаданне — купіць сабе модную майку з вышытым надпісам. Красоўкі і "мальвіны" ён сабе ўжо выменяў.

**Н.Васюк.**
**г.Кобрын.**

## ІНФА-КРЫМ

ІНФА-КРЫМ

## ЛЯКАРСТВА ад... сумлення

У ноч на 18 студзеня адбыліся адразу два абрабаванні аптэк.

У Заслаўі ў аптэцы № 22 невядомы злачынец браў усё, што трапіла пад руку. Урон, нанесены здароўю жыхароў горада, высвятляецца.

А ў Ратамцы з аптэкі № 37 знікла 200 рублёў і 80 упаковак дымедролу. Відаць, апошняе злачынец прыхапіў, каб усыпіць сваё сумленне.

## «Просты савецкі беспрацоўны»

Яго абрабавалі ў ноч з 18 на 19 студзеня непадалёк ад кемпінга, што ў Мінскім раёне. 23-гадовы Б., які нідзе не працуе, меў пры сабе ні многа ні мала 6 тысяч рублёў і 80 даляраў ЗША. Рабаўнік у хуткім часе быў затрыманы. Ім аказаўся навучэнец Магілёўскай дарожна-тэхнічнай школы, 1970 года нараджэння.





Любая смерць заўсёды трагедыя, а недарэчная, выпадковая — удвая. За злічоныя хвіліны "напаткала" яна на адной з ажыўленых магістраляў Брэста адчайнага матацыкліста, які вырашыў абагнаць аўтамашыну.
На жаль, выпадак гэты не адзіны. Паводле звестак ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкома, кожны тыдзень на дарогах вобласці гіне 10—12 чалавек.

## "ТАКСІ-БЛЮЗ"

Новы прыём абрабавання вынайшлі мінскія злачынцы. Позна ўвечары 18 студзеня буфетчыца адной з бальніц Мінска ў пасёлку Навінкі спрабавала сесці ў таксі, аднак мужчына, які сядзеў у салоне, выпхнуў яе, а сумачку жанчыны з купонамі на 250 рублёў, ювелірнымі вырабамі і вялікай сумай грошай заціснуў дзверцамі, пасля чаго машына паехала з такой хуткасцю, што пацярпеўшая не паспела заўважыць яе нумар.

## "Наша сіла — у нашых плаўках"

За сябе і за таго хлопца браў нарабаванае невядомы, які ў ноч на 18 студзеня ўзламаў дзверы магазіна № 6 у вёсцы Чудзенічы Лагойскага раёна. Адтуль выкрадзена два мяшкі цукру, 550 пачак цыгарэт "Сталічныя", 6 спартыўных штаноў і... 14 мужчынскіх плавак.

**У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.**

# КІНЬ ЦЫГАРЭТУ!





*Заклікі пакончыць з курэннем, як правіла, мяркуюць рашучы і імгненны разрыў з гэтай звычкай. Выкурыў чалавек апошнюю цыгарэту — і ўсё, з курэннем пакончана! Такія сітуацыі вельмі нярэдкія, асабліва калі справа тычыцца валявых, рашучых людзей. Але статыстыка сведчыць аб тым, што значная большасць кінуўшых курыць назаўсёды рассталіся з цыгарэтай не імгненна, не раптам, прыняўшы беспаваротнае рашэнне. Не, яны нямала рыхтавалі сябе да гэтага кроку маральна і нават фізічна. Паступовае скарачэнне колькасці выкураных цыгарэт, строгае выкананне правілаў “правільнага курэння” дапамаглі паверыць у сваю магчымасць кантраляваць шкодную звычку, кіраваць ёю. Пасля гэтага пераход да жыцця без цыгарэт аказаўся лягчэйшым.*

Гэта ўлічыў урач П.Белабародаў, які апублікаваў шэраг артыкулаў аб паступовым поўным адмаўленні ад курэння. Метад Белабародава аказаўся эфектыўным перш за ўсё таму, што ў ім улічаны псіхалагічныя адрозненні ў тыпах курцоў. П.Белабародаў разглядае пяць тыпаў прыхільнасці да курэння.

**Першы.** Чалавек верыць у танізуючы (узбадзёрваючы, выроўніваючы настрой, пазбаўляючы стомы) эфект курэння. У яго высокая ступень псіхалагічнай залежнасці ад цыгарэты, яму здаецца, што голад перанесці лягчэй, чым адсутнасць тытуню.

**Другі.** Чалавек нібыта гуляе ў курэнне. Яму падабаецца распячатваць толькі што набыты пачак, запальваць запалку і прыкурваць, трымаць цыгарэту ў роце і выпускаць дым "на свой манер".

Свае адносіны да магчымасці ліквідаваць звычку курцы гэтага тыпу вызначаюць так: "Здолеў бы, але пакуль не хачу". У непрыемных абставінах (трэба спяшацца, мароз, пратэстуюць людзі!) яны кураць рэдка.

**Трэці.** Чалавек атрымлівае асалоду ад курэння, яно для яго служыць нейкім дадаткам да камфорту. Існуе меркаванне, што ў нашы дні да гэтага тыпу адносяцца дзве трэціх часткі курцоў. Такі чалавек курыць і адчувае, што курыць прыемна. Ёсць абавязковыя перакуры пасля ежы, перад пачаткам працы, перад сном. Курцы гэтага тыпу імкнуцца не сумяшчаць курэнне з іншым заняткам."Спакойна пакурыць не дадуць!"— гэта іх выраз.

Цікава, што курцы гэтага тыпу нават у выпадку няўдалай спробы кінуць курыць пачынаюць інакш адносіцца да курэння. Цяпер яно страчвае для іх звыклы камфорт. Да задавальнення дадаецца гаркота, прыкрасць на сябе. Гэта прымушае іх да новых спроб, якія ў рэшце рэшт павінны прывесці да поспеху. Важна прыняць рашэнне!

**Чацвёрты.** Чалавек курыць "аўтаматычна", па звычцы. Перакуры ў дадзеным выпадку ўключаны ў паводзіны ў якасці "другога занятку". На першы план выступае аўтаматызм: неасэнсаванае паўтарэнне знаёмага акта. За працай чалавек курыць часцей, чым у час адпачынку. Чым больш інтэнсіўная праца, тым часцей у руках цыгарэта.

Незаўважальнам тыпу курэння ў сістэмах пазбаўлення адведзена асобнае месца, бо да гэтага тыпу належаць тыя, хто выкурвае 35, 40, 45 цыгарэт за дзень.

**Пяты.** Чалавек курыць і разважае аб нейкай сітуацыі. Верыць, што цыгарэта дапаможа яму сканцэнтравацца, знайсці выйсце, стрымаць гнеў, пазбавіцца сарамлівасці. Гэта "сітуатыўнае" курэнне, якое здымае напружанне. З гадамі "штодзённы курыльны рацыён" звычайна расце: чалавек пашырае кола сітуацый, якія, на ягоную думку, патрабуюць "выратавальнага курэння".

А цяпер патрэбна вызначыць "свой тып". Няхай вас не засмучае, калі ўяўленне аб сабе ў чымсьці не супадае з характарыстыкай. Калі выбраць адзін тып вы не здолееце, можаце выбраць два. Але не болей.

Пазнаёмцеся з заданнем для "вашага тыпу" і пачынайце яго выконваць. Метад Белабародава дазваляе кінуць курыць на працягу двух тыдняў.

### Праграма першага тыдня

**Першы тып.** Звычайна вы пра сябе адзначалі:"Час закурыць". На гэты раз устрымайцеся: роўна 10 хвілін (па гадзінніку) стойце ля адчыненага акна. Дыхаць трэба глыбока. Прапушчаны перакур — падумайце: а што, уласна, змянілася?

З панядзелка кожны вечар рабіце прагулку, якая, так бы мовіць, павінна ліквідаваць не менш як два перакуры. А ўжо з пятніцы забараніце сабе перакур пасля сну — яго заменіць гімнастыка. Без "танізуючых рухавых уключэнняў" аслабіць звычку да курэння ў людзей вашага тыпу цяжка. Вы павінны адняць у "перакураў" прывабнасць. Як гэта зрабіць? З аўторка змяніце гатунак тытуню на той, які вам непрыемны. Раніцай будзеце кашляць? Нічога, трэба вытрываць.

Праз тры-чатыры дні ў часы адпачынку пачніце рабіць "спаранае курэнне": дзве цыгарэты адна за адной, без перапынку. Такія "перакуры" будуць вас стамляць — трэба трываць. "Спараны перакур" на кошт наступнага, чарговага. На дзень двух "спараных перакураў" будзе дастаткова.

**Другі тып.** Перш за ўсё прыглядзіцеся да сябе: ці не выкарыстоўваліся цыгарэты як сродак самадэманстрацыі? Калі гэта так (будзьце з сабой сумленныя), пачніце расказваць сябрам, што вы цвёрда вырашылі пакончыць з тытунём. Калі рашэнне будзе выканана, людзі абавязкова адзначаць, што вы выдатна валодаеце сабой.

**Трэці тып.** Вы казалі сабе: "Цяпер можна і пакурыць!" Думка ўзнікае ў пэўных абставінах. Зараз у тых жа абставінах паспрабуйце замяніць цыгарэту "іншым станоўчым раздражняльнікам": шклянкай фруктовага соку, цукеркай, яблыкам, гумкай — тым, што вам больш прыемна.Уключаецца якасна новы "станоўчы раздражняльнік". Не спяшайцеся. Няхай яго дзеянне працягваецца столькі ж, колькі працягваецца перакур. З серады з дапамогай "канкурэнтнай замены" ліквідуйце два перакуры, з пятніцы — тры.

Аднак пад час курэння смак дыму быў фонам для "розных прыемных думак". Адшукаць новы фон для разважанняў вельмі і вельмі важна. Выбар шырокі: гэта можа быць любімая мелодыя, назіранне за рыбкамі ў акварыуме, работа рукамі, фізічныя практыкаванні.

Гэта не ўсё. Зрабіце надпіс на пачку: "Не куру. Небяспечныя для жыцця задымленні лёгкіх ліквідаваў назаўсёды". Праз два тыдні гэта будзе ваш "апошні пачак". А пакуль няхай паляжыць.

**Чацвёрты тып.** Незаўважальны "другі занятак" неабходна зрабіць заўважальным для сябе. Ніводнага перакуру без папярэдняга высвятлення: ці такое ўжо моцнае жаданне закурыць? Для двух-трох "перакураў" у вольны час адшукайце замену.

А зараз самае галоўнае. Трэба ўвайсці ў больш цесны кантакт з чалавекам, які стане вашым апанентам. Няхай ён нагадвае:"Колькі можна курыць? Зноў! Згублены самакантроль!" Вас пачнуць раздражняць гэтыя словы — трывайце, трэба! Адшукайце занятак, які вас захопіць — гімнастыка, лыжы, плаванне, бег, маляванне і г.д.

**Пяты тып.** Замест "выратавальнага перакуру" — прагулка паскоранай хадой на 2 кіламетры, шклянка моцнага чаю з двайной порцыяй цукру. Вы хутка пераканаецеся, што адмаўленне ад курэння вас не абяззброіць.

Напрыканцы першага тыдня прадстаўнікі ўсіх тыпаў павінны ўдвая скараціць "рацыён цыгарэт". Калі вы заўсёды выкурвалі па 20 цыгарэт на дзень, то ў суботу абмяжуйцеся дзесяццю.

### Праграма другога тыдня

1. Не спрачайцеся з тымі, хто не пажадаў адмовіцца ад курэння.

2. На працягу ўсяго тыдня нельга ўжываць спіртныя напіткі. Нават у нязначнай колькасці, нават піва. Псіхолагі адзначаюць, што людзі, якія не ўяўлялі сабе і дня без "традыцыйнай чаркі", прыняўшы рашэнне пазбавіцца курэння, без цяжкасцей адмаўляліся ад алкаголю на перыяд адвыкання.

3. Абавязкова рабіце прагулкі. Падумайце аб маршрутах. Адлегласць (у абодва канцы) — не менш як 3 кіламетры. Шлях ад дому — спакойна. Шлях дадому — крыху паскорана. Рухавая актыўнасць паскарае ўнутранае, тканкавае дыханне, а рытм дапамагае нармалізаваць працу вегетатыўнай нервовай сістэмы. Прагулкі трэба праводзіць вечарам.

4. У заключэнне правядзіце "залпавы дзень"(так назвалі гэты дзень псіхолагі). Калі ў вас не было скарачэння "дзённага цыгарэтнага рацыёну" на працягу мінулага тыдня — нічога. Сёння ўсе (хто праводзіў скарачэнне і хто не) павінны будуць удвая перавысіць сваю звычайную норму цыгарэт. Звычайна выкурвалі 10 цыгарэт штодзень — сёння трэба выкурыць 20. Выкурвалі 20— трэба выкурыць 35-40. Аднак калі ваш дзённы рацыён быў 35-40 цыгарэт, больш чым 40-45 цыгарэт не выкурвайце. Запомніце гэта. Курыць "адну за адной" не трэба. Павялічыць колькасць "перакураў" можна толькі да чатырох у гадзіну. Скурыць трэба, як кажуць, столькі, колькі паспееце.

Людзі, якія пакутуюць на хранічныя захворванні, асабліва на захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, праводзіць "залпавае курэнне" не павінны. Перад сном будзе скурана ваша апошняя цыгарэта. З гэтага моманту ніякіх "тытунёвых запасаў" у доме!

5. Пасля "залпавага курэння" 60-65 працэнтаў курцоў (цяпер ужо "былых курцоў") прачынаюцца з пачуццём сухасці ў роце, з пэўнай агідай да цыгарэты. Тут бы і кінуць курыць назаўсёды. Аднак усе гэтыя з'явы праходзяць і зноў з'яўляецца жаданне закурыць...

Вазьміце няпоўную чайную лыжку солі, сталовую лыжку цукру, наліце ў шклянку цёплай вады, кіньце соль і цукар, размяшайце і выпіце паўшклянкі гэтай сумесі... замест ранішняй цыгарэты. Піце не спяшаючыся, глыток за глытком, з перапынкамі. Няхай гэтая малапрыемная працэдура зойме не менш чым тры хвіліны.

6. Карыстайцеся імітатарамі. Папяроса (менавіта папяроса, а не цыгарэта) можа служыць імітатарам аднаразовага ўжывання. Трэба рабіць усё тое ж самае, што вы рабілі, калі курылі. Вядома, акрамя аднаго — не прыкурваць. Імітатары дапамогуць перайсці ў "свет без цыгарэт" больш павольна, мякка. Карыстацца імітатарамі трэба праз дзве гадзіны ці праз дзве з паловай. Як бы па раскладу.

На пяты ці шосты дзень наведайце лазню. Лазня, асабліва парное аддзяленне, паскорыць працэс ачышчэння лёгкіх.

У гэтыя дні асабліва важныя інтэнсіўныя фізічныя практыкаванні.

7. Глыбей углядайцеся ў сябе. Засяроджвайце ўвагу на станоўчых зменах.

8. Статыстыка паказвае: у 60-65 працэнтаў людзей, якія кінулі курыць, з'яўляецца пачуццё, што чагосьці не хапае. Не цыгарэт — менавіта "чагосьці". Калі чалавек убачыў тытунёвыя вырабы (скажам, на прылаўку крамы), ён пачынае думаць: "Няўжо ніколі ўжо..." Гэтыя думкі трэба праганяць.

У 25-30 працэнтаў з'яўляецца "раздражняльная слабасць" (любая дробязь уражвае). У іншых — санлівасць днём, вяласць, у іншых — сухасць у роце. Паступова гэтыя з'явы знікаюць.

У 8-12 працэнтаў людзей, якія робяць спробы кінуць курыць, цяга да цыгарэты бывае вельмі моцнай. Тут трэба мабілізаваць волю.

9. Могуць з'явіцца прыкметы персеверацыі: неадчэпныя вяртанні да адной і той жа думкі ("Хачу курыць і ўсё тут"). Як пазбавіцца гэтых з'яў? Вазьміце ліст паперы. Уявіце, што вы складаеце рэкамендацыі для чалавека, які можа аказацца ў такой жа сітуацыі. Пазнаёмце яго са сваімі пачуццямі. Дайце параду: не ўзвінчваць нервы...

Вось і ўся праграма. Кожны пункт абавязковы для выканання.

Эксперымент скончыцца ў суботу. Правядзіце суботу на прыродзе. Паслухайце, як шуміць лес, як спяваюць птушкі. Ліквідацыя курэння — пытанне ключавое. Калі саюз з цыгарэтай касуецца, людзі звычайна пачынаюць больш увагі аддаваць здароўю, актыўна займацца фізкультурай, загартоўваннем, больш уважлівыя да лячэння.

Пасля спынення курэння паступова знікаюць змяненні ў бронхах. Ужо праз 2-4 гады значна змяншаецца рызыка анкалагічнага захворвання. Гэты працэс ідзе больш інтэнсіўна пры ўзмоцненых занятках фізічнымі практыкаваннямі, адпаведным харчаванні, што ачышчае арганізм ад вынікаў курэння, вядзе да яго аздараўлення.

Ясна, што "самаадвыканне" ад курэння будзе больш эфектыўным, калі яно будзе спалучацца з адміністрацыйнымі мерамі па скарачэнню курэння. Гэта асабліва важна для прафілактыкі курэння сярод падлеткаў, а таксама для таго, каб паменшыць уздзеянне так званага "пасіўнага курэння". У эксперыменце было паказана, што ў арганізме чалавека, які не курыць, і які правёў гадзіну ў вельмі закураным пакоі, адбыліся такія змены, быццам бы ён сам выкурыў тры цыгарэты.

Амерыканец Г.Мілер падлічыў, што жонкі курцоў паміраюць на 4 гады раней. Яшчэ больш моцна ўздзейнічае тытунёвы дым на арганізм дзіцяці. Не трэба забывацца на псіхалагічнае ўздзеянне курэння: дзеці курцоў цягнуцца да цыгарэты нашмат раней, чым іх равеснікі — дзеці бацькоў, якія не кураць. Пачынаюць курыць для імітацыі ці кураць часцей, гледзячы на тых, хто курыць, нібыта за кампанію, і дарослыя людзі. Значыць, усім (асабліва тым, хто кінуў курыць) пажадана як мага менш знаходзіцца разам з людзьмі, якія кураць.

**Па матэрыялах кнігі С.Шэнкмана**
**"Мы — мужчыны"**
**падрыхтавала Н. Плыткевіч.**

## Гісторыі абсурду

### Гісторыя барадаўкі

Аднойчы барадаўка села ў лужыну. Вада ў лужыне была халодная, і барадаўка закалела. Аднак у яе быў сябар у інстытуце анкалёгіі, які зрабіў надрэз, высмактаў кроў і стаў міністрам спустошаных фінансаў. Спустошаныя фінансы, аднак, не драмалі і прадалі барадаўку тамбоўскім ваўкам. Не драмаў і міністр. Ён ускочыў у сукенку Керэнскага і выйшаў на рыбалоўным траўлеры ў адкрыты акіян. З тых часоў барадаўка, напітая ваўчынай крывёю, абвясціла аб сваёй уласнай фінансавай палітыцы і пачала яе ажыццяўляць. Мэтанакіравана і паэтапна.

### Гісторыя парасяці

Аднойчы парася ўчыніла банкет, а за ім дэбош. Нарэзаўшыся, аблаяла гасцей нечуваным брыдкаслоўем і кінулася канструяваць дэльтаплан. Дэльтаплан атрымаўся без крылаў і даляцеў толькі да стратасфэры. Тут парася чакаў непрыемны сюрпрыз. Агент падатковай інспекцыі спыніў яго патрабаваннем перааформіць дэкларацыю аб даходах. З парасяці выйшаў хмель, затое зайшоў шайтан. Што вельмі ўсцешна, бо шайтан ніколі не запаўняе ніякіх дэкларацый. Парасятка ж загінула ў стратасфэры, таму што дало жыццё новай істоце, больш арганізаванай і дасканалай.

**Ігар Сідарук.**

*Мы слаўна гулялі*
*На нашым вяселлі,*
*Было ж нам даволі*
*Усяго, што хацелі!*

**З песні фермераў мястэчка Хіброн, што ў штаце Вісконсін (ЗША).**

## Конкурс "ЮНЫ ЗУХ — ВАРТЫ СТАРЫХ ДВУХ" працягваецца



— Мама, наша ялінка гарыць,— крычыць дзяўчынка з залы на кухню.
— Ялінка не гарыць, а свеціцца,— папраўляе яе маці.
— Мама, нашыя шторы таксама свецяцца,— цягне далей дачка.

* * *

Вечарам разыгралася бура, загрымеў гром, бліснула маланка. З дзіцячага пакоя выбег напалоханы хлопчык.
— Мама, гэта татуля зноў спрабуе адрамантаваць тэлевізар?

* * *

— Ты паглядзі толькі на нашае дзіця, якое яно абпэцканае, засмарканае, абарванае.
— Ну, што, памыем або лепш зробім другое?

* * *

— Хлопчык, скажы, калі ласка, у вашай вёсцы жыве Фёдар Арол?
— Так, жыве. Толькі яго ўсе клічуць "Вераб'ём".

* * *

Хлопчык моліцца перад сном:
— Госпадзі, зрабі так, каб сталіцай Францыі быў Стакгольм...
— Ты чаму аб гэтым просіш Бога?— пытае зацікаўленая маці.
— Таму што так напісаў у сваім сачыненні...

**Падрыхтаваў К.Вакуленка.**

## Тлумкачыызмы

**Балбес** – *пекла*
**Барсук** – *піцейная ўстанова для жанчын лёгкіх паводзін*
**Венік** – *жыхар сталіцы Аўстрыі*
**Кадрыст** – *кінаапаратар*
**Крывінка** – *лясная сцежка*
**Курылка** – *жанчына з Курыльскіх астравоў*
**Малюнак** – *карлік*
**Міска** – *пераможца конкурсу прыгажосці сярод дзяўчынак*
**Мэбля** – *лексікон п'яніцы*
**Гардэроб** – *шахматыст*
**Палітолаг** – *скрыня для адзення*
**Парасон** – *двухспальны ложак*
**Саджанец** – *злачынца*
**Салабон** – *гуманітарная дапамога з Германіі*
**Самакат** – *вісельнік*
**Тэлеграф** – *дырэктар тэлерадыёкампаніі*

**Валянцін Малькоў.**

## Аб'явы і рэклама

☐ Пры "Гарчычніку" ў памяшканні Дому друку (пр.Ф.Скарыны, 77) арганізавана тэрміновая лясатачыльня.
Кошт паслуг ніжэй за рынкавыя.

☐ Каму неабходна расставіць усе кропкі над "і", звяртайцеся да пісьменніка Слупоўскага Г.Г.
Аплата па дамоўленасці.

☐ 11.01.96г. у будынку Белдзяржперабудбанку адбудзецца адкрыты аўкцыён купюраў вартасцю 25, 50, 100 рублёў. Пачатковы кошт па наміналу. Цана ўваходнага квітка 250 руб.

☐ З кватэры грамадзян Кахфановічаў збег прыручаны алігатар. Просьба не гладзіць і за вухам не чухаць.

☐ Адчыняецца завочны элітарны клуб аматараў дыхаць паветрам. Хто любіць дыхаць — уступайце да нас!

☐ Пачатковы ўзнос — 3 рублі — дасылайце ў рэдакцыю "Гарчычніка". Рэдакцыя перашле клубу.

☐ Просьба да невядомага мужчыны, з якім мы пілі на дваіх бутэльку гарэлкі і бутэльку "Шампанскага", вярнуцца і даліць сваю палову "Шампанскага".
Уладальніца пашпарта XI № 923567 PP

☐ Цыркавы леў Федзя заяўляе пратэст супраць дрэннага эканамічнага становішча дрэсіроўшчыкаў і аб'яўляе галадоўку на іх карысць.

**У рэкламным бюро дзяжурыў Сяржук Вітак-Ддузачка.**




## Ліра сатырыка

Таісія Пінчук-Казлоўская

### Лыжка ў халяве

Не пад'еўшы раз у дзень
Не заробіш "трудодень"
Вось таму для нас, для бедных
Лыжка трэба да абеду.
Толькі той, хто не абедае,
Пэўна, гэтага не ведае.
Каб у сталоўцы нам пад'есці,
Трэба сваю лыжку несці.
Бо ў нас як? Пад'еўшы крышку,
У кішэню крадуць лыжку.
І дарма, што лыжка тая
Ну, зусім не залатая.
У гаспадарцы ўсё патрэбна.
Як не ўзяць, калі дарэмна?
І сталоўкі робяць спробы
(Мо каму й не даспадобы)
Трымаць лыжкі ў гардэробе,
Выдаваць за тры рублі,
Каб паелі – і здалі!

* * *

А калі вас будзе млявіць,
То прыносьце ў халяве.

Дзяжурны рэдактар Н. ПЛЫТКЕВІЧ. — Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: Саюз моладзі Беларусі
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і зверстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак. № 4. П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12